—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
19
ЧЭРВЕНЯ
1992 г.
№ 25 (3643)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)



## ВАШ ВЫХАД, СПАДАРЫ АРТЫСТЫ!

Запомніце іх у твар, бо прозвішчы вам пакуль што нічога не скажуць. За выключэннем, вядома, абаяльнага чалавека ў чорных акулярах—рэжысёра Валерыя Маслюка. Але ён якраз і не галоўны на гэтым здымку. Галоўныя сёння—ягоныя выхаванцы, сёлетнія выпускнікі тэатральнага факультэта Беларускай акадэміі мастацтваў. Бліжэй пазнаёміцца з імі можна на наступным тыдні, у час паказу дыпломных спектакляў на сцэне Вучэбнага тэатра акадэміі.

Як складзецца іх творчы лёс! Колькі часу міне, пакуль ужо на прафесійнай сцэне мы ўбачым іх у ролях Ранеўскай, Лапахіна ці Епіходава! Што там наперадзе — «дваццаць два няшчасці» ці «неба ў алмазах»!

Будзем спадзявацца на лепшае і пажадаем ім удачы. Калі «на акцёра» вучаць, значыць, гэта некаму трэба!!

Фота У. ПАНАДЫ.

# Ад Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

9 чэрвеня г. г. пад старшынствам народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча адбылося пленарнае пасяджэнне Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.

Разгледзеўшы творы і работы, прадстаўленыя на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1992 года, Камітэт вырашыў дапусціць да ўдзелу ў далейшым конкурсе:

### У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ НА ПРЭМІЮ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ:

1. **Законнікаў** Сяргей Іванавіч. Заклінанне. Кніга вершаў.
Вылучана калектывам супрацоўнікаў Дзяржаўнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, радай Саюза пісьменнікаў Беларусі і рэдакцыяй часопіса «Нёман».

2. **Звонак** Алесь (Звонак Пятро Барысавіч). Светлацені. Кніга паэзіі.
Вылучана радай Саюза пісьменнікаў Беларусі.

3. **Мятліцкі** Мікалай Міхайлавіч. Палескі смутак. Кніга паэзіі.
Вылучана Дзяржкамітэтам Рэспублікі Беларусь па праблемах ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС і радай Саюза пісьменнікаў Беларусі.

### НА ПРЭМІЮ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА:

1. **Грахоўскі** Сяргей Іванавіч. Споведзь. Аповесць і вершы.
Вылучана радай Саюза пісьменнікаў Беларусі.

2. **Жук** Аляксандр Аляксандравіч. Праклятая любоў. Аповесць, апавяданні.
Вылучана радай Саюза пісьменнікаў Беларусі.

3. **Сёмуха** Васіль Сяргеевіч. Пераклад з нямецкай мовы рамана Томаса Мана «Доктар Фаўстус».
Вылучана радай Саюза пісьменнікаў Беларусі.

### НА ПРЭМІЮ ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА:

**Ермаловіч** Мікалай Іванавіч. Старажытная Беларусь. Полацкі і новагародскі перыяды.
Вылучана радай Саюза пісьменнікаў Беларусі.

### ТВОРЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ЮНАЦТВА:

1. **Пархута** Яраслаў Сільвестравіч. Зямля бацькоў нашых. Падарожжа па роднym краі.
Вылучана радай Саюза пісьменнікаў Беларусі.

2. **Чарняўскі** Мікалай Мікалаевіч. Аб чым пяе крынічка. Вершы і казкі.
Вылучана радай Саюза пісьменнікаў Беларусі.

### У ГАЛІНЕ ЖУРНАЛІСТЫКІ

**Уліцёнак** Аляксандр Леанідавіч. Іншадумцы (Мыслящие иначе).
Вылучана сходам журналістаў выдавецтва «Беларусь» і падтрымана выканкомам Саюза журналістаў Беларусі.

### У ГАЛІНЕ МУЗЫКІ І КАНЦЭРТНА-ВЫКАНАЛЬНІЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

**Гарэлава** Галіна Канстанцінаўна. У год сусветнага пажару. Кантата.
Прадстаўлена агульным сходам Саюза кампазітараў Беларусі.

### У ГАЛІНЕ ТЭАТРА, КІНО, ТЭЛЕБАЧАННЯ І РАДЫЁВЯШЧАННЯ

1. Спектакль «Тутэйшыя» па п'есе Янкі Купалы ў пастаноўцы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы — рэжысёр-пастаноўшчык **Пінігін** Мікалай Мікалаевіч, кампазітар **Кур'ян** Уладзімір Мітрафанавіч, артысты: **Кін-Камінскі** Уладзімір Тадэвушавіч і **Манаеў** Віктар Сяргеевіч — выканаўцы роляў.
Прадстаўлены мастацкай радай тэатра імя Янкі Купалы, падтрыманы калегіяй Міністэрства культуры Беларусі.

2. Дакументальны кінафільм «Вяртанне Міхася Забэйды-Суміцкага» (кінастудыя «Беларусьфільм») — аўтары сцэнарыя **Гедравічус** Людгардас Вітаўтавіч, **Марчук** Георгій Васільевіч, **Цішчанка** Іван Кірылавіч, рэжысёр **Ясінскі** Рычард Здзіслававіч, аператар **Пятроўскі** Сяргей Уладзіміравіч.
Прадстаўлены прэзідыумам праўлення Саюза музычных дзеячаў Беларусі.

(Працяг на стар. 4).

# ВЫБІРАЙЦЕ ГІМН БЕЛАРУСІ!

Музычная рэдакцыя Беларускага радыё падрыхтавала да эфіру фанаграмы сямі гімнаў, адзін з якіх павінен зрабіцца музычным сімвалам Рэспублікі Беларусь. Члены журы конкурсу на стварэнне гімна Беларусі разгледзелі 50 твораў, з якіх выбралі для далейшага абмеркавання старабеларускія песні «Магутны Божа» (М. Равенскі — Н. Арсеньева), «Пагоня» (М. Куліковіч-Шчаглоў — М. Багдановіч), «Мы выйдзем шчыльнымі» (У. Тэраўскі — М. Краўцоў) ды чатыры гімны (пад дэвізамі), напісаныя сучаснымі беларускімі кампазітарамі спецыяльна да конкурсу. У запісе Акадэмічнага хору пад кіраўніцтвам В. Роўды, Дзяржаўнага камернага хору пад кіраўніцтвам І. Мацюхова, а таксама Ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Беларусі (дырыжор М. Снітко) ўсе гэтыя творы будуць перадавацца па радыё (з панядзелка ў «Радыёфанце») з тым, каб пры вызначэнні Дзяржаўнага гімна нашай рэспублікі было ўлічана і меркаванне яе народа. Сачыце за праграмай перадач!

# ЗАЯВА БЕЛАРУСКІХ ВАЙСКОЎЦАЎ

**Каардынацыйная рада Беларускага згуртавання вайскоўцаў звярнулася днямі да грамадскасці рэспублікі ў сувязі з праблемамі, якія ўзнiклі апошнім часам у ходзе стварэння беларускага войска. БЗВ, як сказана ў прынятай радай заяве, лічыць неабходным:**

**«Неадкладна прывесці да прысягі на вернасць Рэспубліцы Беларусь увесь афіцэрскі корпус нашай краіны, як афіцэраў кадравай службы, так і запасу.**

**Распрацаваць дзяржаўную праграму вяртання беларускіх афіцэраў на Радзіму.**

**Спыніць вывад з Германіі злучэнняў расійскай арміі на тэрыторыю Беларусі.**

**Разгарнуць у беларускім войску шырокую патрыятычную працу па выхаванні афіцэраў і жаўнераў у духу вернасці і адданасці Беларусі».**

**БЗВ звярнуў увагу парламента і ўрада на тое, што лёс 40 000 афіцэраў на чужыне закранае паўмільёна людзей на Беларусі. Вяртанне гэтых людзей адпавядае інтарэсам Беларускай дзяржавы і павінна быць вырашана на дзяржаўным узроўні.**

# АБАРОНІМ НАШУ ДЗІЦЯЧУЮ КНІГУ!

Над нацыянальным адраджэннем сёння занесены дамоклаў меч. Баль паўсюдна правіць спадар прыбытак. Непамерна высокія цэны на паперу, паліграфічныя матэрыялы і паслугі ў сваю чаргу выклікалі значны рост цэн на дзіцячыя кнігі. Сабекошт аднаго экземпляра даходзіць ужо па брашуры — да 25—50 рублёў, па кнізе ў пераплёце — да 70—120 рублёў. Не выручае і дзяржаўная датацыя, якая паабяцана ў памеры 50 працэнтаў выдаткаў.

Многія кнігі не выходзяць, і гэта ў той час, калі беларускамоўную літаратуру чакаюць у садках і школах, калі патрэбна нарошчваць працэс нацыянальнага адраджэння, вяртаць родную мову да жыцця.

Выдавецтва «Юнацтва» імкнецца захаваць выпуск нацыянальнай дзіцячай кнігі, пакуль яшчэ перакрываючы вялізныя страты за кошт прыбытковай рускамоўнай літаратуры павышанага попыту. Аднакперашкод нямала. І адна з іх — нежаданне кіраўнікоў дзяржаўнага кніжнага гандлю клапаціцца аб беларускамоўнай кнізе, пачынаючы ад збору заказаў на кнігі і завяршаючы арганізацыяй продажу.

Асобныя кнігі на розных прыступках чыноўніцкай лесвіцы проста ігнаруюцца, заказы на многія рэзка зніжаюцца. І гэта ў той час, калі ў раёнах адсутнічае ў кнігарнях дзіцячая кніга. Кіраўнікі кнігагандлёвых арганізацый не ўлічваюць, што пры зніжэнні тыражу кнігі рэзка ўзрастае яе цана, а пры павышэнні цаны адмаўляюцца ад беларускамоўнай кнігі ўвогуле.

Дарэчы, беларускі кніжны рынак па-ранейшаму не абаронены, сюды плыве шмат літаратуры з розных дзяржаў, а варта было б абкласці гэтую замежную літаратуру падаткам на карысць беларускамоўнага друку.

На Беларусі жыве звыш 2-х мільёнаў дзяцей, працуе 4,5 тысячы дашкольных устаноў, звыш 5 тысяч агульнаадукацыйных школ, а беларускамоўнай кнізе патрэбна прабівацца да іх праз чыноўніцкія кабінеты абыякавасці да (у рэшце рэшт!) дзяржаўнай справы. Дзяржаўная ж мова ў нас — **беларуская,** дзяржава называецца — **Беларусь.**

А што атрымліваецца? «Юнацтва», напрыклад, выдае адзіны ў рэспубліцы рэпертуарны зборнік для школьнай самадзейнасці. У канцы мая выйшла чарговая кніга «Драўляны рыцар», у якой народны артыст Анатоль Ляляўскі расказвае пра лялечны тэатр, як арганізаваць работу яго ў школе, друкуецца шэраг новых п'ес і г. д. Мала таго, што тыраж кнігі быў зніжаны да 6 тысяч экземпляраў, дык і з гэтага тыражу 550 экземпляраў чыноўнікі-кнігагандляры адмаўляюцца браць у продаж нават на камісійных асновах.

Дыктат упарта працягваецца. Так, у серыі «Школьная бібліятэка» выйшла кніга некалі рэпрэсіраванага сталінскім рэжымам Платона Галавача «Праз гады», тыражом 21 тыс. экземпляраў. Кнігагандлёвыя чыноўнікі «забаранілі» пусціць у продаж 2 тыс. экземпляраў. Здавалася б, пры вывучэнні беларускай мовы ў садках, з першага класа ў школах патрэбна больш і літаратуры для самых маленькіх чытачоў. Аднак і тут кіраўнікі кнігагандлю дзейнічаюць насуперак логіцы, амаль скасоўваюць ранейшыя заказы.

І гэта толькі пачатак падобных адносін да беларускамоўнай кнігі. «Юнацтва» нясе вялікія страты, гэтак і да банкруцтва не далёка.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
**галоўны рэдактар выдавецтва «Юнацтва».**

Віскулёў, урадавых кабінетаў і парламенцкіх ложаў ва ўсіх без выключэння рэспубліках. І што хтосьці збіраецца нас каланізаваць, пазбавіць роднай зямлі-карміцелькі і загнаць у вечнае рабства ўсё да тых жа ненавісных капіталістаў.

Паколькі з дапамогаю старых ідэалагічных клішэ ажывіць састарэлы арганізм немагчыма, на паверхню выцягнулі зусім было забытую «рускую ідэю», а дакладней, яе вялікадзяржаўна - шавіністычную інтэрпрэтацыю. Нараджалася гэтая ідэя ў свой час як абгрунтаванне справядлівага імкнення рускага народа да духоўнага і маральнага ўдасканалення, як сродак узбагачэння лепшых нацыянальных традыцый і рыс характару. Ды і тыя філосафы-ідэалісты (Бярдзяеў, Ільін, Фядотаў і іншыя), якіх так палюбілі цяпер маскоўскія і мінскія матэрыялісты, называлі выношваемую ў Расіі рускую ідэю ідэяй братэрства людзей і народаў, лічылі яе не насіллем над другімі, а намаганнем над сабой.

Пошуку цывілізаваных шляхоў адраджэння новай Расіі, прымірэння рускіх паміж сабой і ўсімі «блізкімі і далёкімі братамі» прысвячаюць сёння свае намаганні вядомыя дзеячы культуры гэтай краіны і замежжа, прагрэсіўныя палітыкі. Усе яны зыходзяць з разумення таго, што сам па сабе рускі народ не мае дачынення да таго чалавеканенавісніцкага нацыяналізму і насілля, якое праявілася ў злоўжываннях дзяржаўнай улады ў мінулым, асабліва ў гады сталінскага тэрору і дэпартацый народаў. Бо добрае і злое ў рускім характары, як правільна зазначыў акадэмік Д. Ліхачоў, зусім не ўраўнаважаны, добрае заўсёды ў шмат разоў каштоўнейшае і больш важкае за злое.

Зразумела, не гэтыя гуманістычныя пачаткі рускай нацыянальнай ідэі падымаюцца на шчыт сучаснымі «сынами и патриотами Отечества». З яе

(Працяг на стар. 14—15).

# *Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

**Аб зацвярджэнні Палажэнняў аб Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, Камітэце па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры і яго складзе**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанаўляюць:

1. Зацвердзіць Палажэнне аб Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры (прыкладаецца).

2. Зацвердзіць Палажэнне аб Камітэце па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры (прыкладаецца).

3. Зацвердзіць склад Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры (прыкладаецца).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**
**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**
**В. КЕБІЧ.**

19 мая 1992 г.
г. Мінск.

**Зацверджана пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 мая 1992 г. № 1671-XII.**

# ПАЛАЖЭННЕ

**Аб Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры**

1. Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры прысуджаюцца за таленавітыя, глыбокія па змесце і адметныя па форме творы літаратуры, музыкі, выяўленчага мастацтва, тэатра, кіно, архітэктуры, за выдатныя дасягненні выканальніцкага майстэрства, якія маюць эстэтычную вартасць, уносяць значны ўклад у беларускую нацыянальную культуру, развіваюць мастацкія традыцыі, узбагачаюць духоўнае жыццё народа, садзейнічаюць усталяванню агульначалавечых каштоўнасцей і ідэй гуманізму, узвышаюць сусветны аўтарытэт нацыянальнай культуры Рэспублікі Беларусь, а таксама за маштабныя публікацыі ў галіне журналістыкі, за выдатныя даследчыя работы ў галіне літаратуразнаўства і мастацтвазнаўства, тэорыі і гісторыі мастацтва.

2. Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры прысуджаюцца адзін раз у два гады (кожны цотны год) у наступнай колькасці:

за творы паэзіі і драматургіі — адна прэмія імя Янкі Купалы;

за творы прозы, работы ў галіне літаратуразнаўства і крытыкі — адна прэмія імя Якуба Коласа;

за творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і юнацтва — адна прэмія;

за работы ў галіне мастацкай публіцыстыкі (літаратура, мастацтва) — адна прэмія імя Кастуся Каліноўскага;

за значныя работы ў галіне журналістыкі — адна прэмія;
за музычныя творы буйных і малых форм, а таксама за канцэртнавыканальніцкую дзейнасць — *адна прэмія;*

за шырока прызнаныя работы рэжысёраў, дырыжораў, балетмайстраў, хормайстраў, артыстаў, мастакоў, сцэнарыстаў, кампазітараў і драматургаў, аператараў у пастаноўках тэатраў, кінастудый, на тэлебачанні і радыёвяшчанні — дзве прэміі;

за творы жывапісу, скульптуры, графікі, манументальна-дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва — адна прэмія;

за арыгінальную архітэктуру грамадзянскіх, прамысловых і жылых збудаванняў у горадзе *і на вёсцы — адна прэмія;*

за даследаванні па тэорыі і гісторыі мастацтва і архітэктуры, а таксама падручнікі для спецыяльных навучальных устаноў па архітэктуры і мастацтвазнаўстве — адна прэмія.

Памер прэміі ўстанаўліваецца пры прыняцці рашэння аб яе прысуджэнні Прэзідыумам Вярхоўнага Савета і Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

3. Вылучэнне работ на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь праводзіцца міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі, ведамствамі, творчымі, грамадскімі аб'яднаннямі, установамі культуры, навуковымі і вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, працоўнымі калектывамі, рэдакцыямі газет і часопісаў, выдавецтвамі. Работы вылучаюцца на пасяджэннях калегій, прэзідыумаў, сакратарыятаў праўленняў, мастацкіх, рэдакцыйна-выдавецкіх і вучоных саветаў, на сходах працоўных калектываў у абстаноўцы высокай патрабавальнасці да ацэнкі кожнага твора, творчага ўкладу кожнага аўтара пры шырокім удзеле грамадскасці і забеспячэнні поўнай галоснасці.

4. На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь могуць вылучацца творы літаратуры і мастацтва, навуковыя працы і архітэктурныя збудаванні, апублікаваныя (публічна выкананыя, збудаваныя) не менш чым за год да заканчэння прыёму работ.

Творы літаратуры, журналістыкі, публіцыстыкі, выяўленчага мастацтва, архітэктуры, навуковыя працы павінны быць апублікаваны (выстаўлены для публічнага паказу, збудаваны) не больш чым за пяць гадоў, а кіна- і тэлефільмы, тэатральныя, радыё- і тэлеспектаклі, канцэртныя праграмы публічна выкананы (паступіўшыя ў пракат) не больш чым за тры гады да даты прысуджэння прэмій.

На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь не дапускаецца вылучэнне работ, якія вылучаны на атрыманне прэміі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, міжнародныя прэміі, прэміі іншай дзяржавы, або якія атрымалі такія прэміі.

5. Калектыў, які вылучаецца на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, павінен уключаць толькі асноўных аўтараў, чый творчы ўклад быў вызначальным. У склад калектыву не могуць быць вылучаны асобы толькі па прыкметах адміністрацыйнага, кансультацыйнага ці арганізацыйнага саўдзелу. Колькасць пабornікаў на атрыманне прэміі ў калектыве не павінна перавышаць 8 чалавек, у склад аўтарскага калектыву могуць быць уключаны і асобы, якія не з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь.

6. Работы, якія вылучаюцца на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прымаюцца Камітэтам па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры* на працягу двух гадоў да 1 лютага года, у якім яна прысуджаецца.

Парадак вылучэння і афармлення дакументаў вызначаецца інструкцыяй, якая зацвярджаецца прэзідыумам Камітэта.

7. Работы, вылучаныя на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, Камітэт разглядае ў два этапы: на першым этапе ідзе адбор работ для ўдзелу ў конкурсе, на другім — прымаецца рашэнне аб прысуджэнні прэміі.

Спіс дапушчаных да ўдзелу ў конкурсе работ публікуецца ў «Народнай газеце», газетах «Звязда», «Советская Белоруссия», «Рэспубліка», «Літаратура і мастацтва», «Культура» не пазней 1 мая.

8. Для ўсебаковага і прынцыповага абмеркавання вылучаных на конкурс работ скарыстоўваюцца сродкі масавай інфармацыі — друк, радыё, тэлебачанне, а таксама сходы працоўных калектываў і нарады творчых саюзаў, культурных фондаў і таварыстваў. Матэрыялы ўсіх абмеркаванняў, уключаючы і сродкі масавай інфармацыі, не пазней 1 лістапада прадстаўляюцца ў Камітэт той арганізацыяй ці ўстановай, якая вылучыла свае кандыдатуры на атрыманне прэміі. Тым самым забяспечваецца выкарыстанне гэтых матэрыялаў пры канчатковым вырашэнні пытання аб прысуджэнні прэмій.

---

* У далейшым — Камітэт.

(Працяг на стар. 4).

(Пачатак на стар. 3).

Арганізацыя праглядаў і праслухоўвання спектакляў, канцэртных праграм, кіна- і тэлефільмаў, выставак твораў выяўленчага мастацтва ў час правядзення секцыйных і пленарных пасяджэнняў Камітэта, а таксама аглядаў архітэктурных твораў у натуры ўскладаецца на Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па архітэктуры і будаўніцтве разам з Камітэтам па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.

9. Рашэнне Камітэта аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій прадстаўляецца ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 снежня і ўступае ў сілу пасля зацвярджэння яго Прэзідыумам Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Пастанова аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій публікуецца ў друку да 1 студзеня.

10. Асобам, удастоеным Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь, прысвойваецца званне «Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь», ва ўрачыстай абстаноўцы ўручаюцца дыплом і Ганаровы знак лаўрэата. Пры прысуджэнні Дзяржаўнай прэміі калектыву аўтараў грашовая частка прэміі дзеліцца паміж імі пароўну.

11. Дыплом і Ганаровы знак памёршага лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і ўзнагароджанага пасмяротна ўручаюцца яго сям'і. Грашовая частка прэміі перадаецца па спадчыне ў парадку, прадугледжаным грамадзянскім заканадаўствам.

**Зацверджана пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 мая 1992 г. № 1671-XII**

# ПАЛАЖЭННЕ

## Аб Камітэце па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

1. Камітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры* фарміруецца з ліку найбольш аўтарытэтных майстроў літаратуры, мастацтва і архітэктуры, вучоных-літаратуразнаўцаў і мастацтвазнаўцаў, крытыкаў з улікам прапаноў міністэрстваў і ведамстваў, творчых саюзаў і аб'яднанняў рэспублікі і зацвярджаецца Прэзідыумам Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь тэрмінам на 4 гады. Знаходжанне ў яго складзе дапускаецца не больш 8 гадоў.

Для кіраўніцтва работай Камітэта ствараецца прэзідыум у складзе старшыні Камітэта, яго намесніка, старшынь (кіраўнікоў) секцый і адказнага сакратара.

Спіс членаў Камітэта і інфармацыя аб змяненнях у ім публікуюцца ў друку.

2. На Камітэт ускладаецца прысуджэнне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.

3. У адпаведнасці з мэтамі яго дзейнасці Камітэт:

прымае вылучаныя на атрыманне Дзяржаўных прэмій творы і работы, устанаўлівае на падставе дакументаў захаванне парадку іх вылучэння, публікуе спіс прынятых работ у «Народнай газеце», газетах «Звязда», «Советская Белоруссия», «Рэспубліка», «Літаратура і мастацтва», «Культура»;

адбірае найбольш вартыя работы для ўдзелу ў конкурсе;

наладжвае іх шырокае і актыўнае абмеркаванне, выяўляе ацэнкі шырокай грамадскасці;

разглядае допушчаныя да конкурсу работы, аналізуе меркаванні чытачоў ці гледачоў, наладжвае работу творчых секцый Камітэта, забяспечвае актыўны ўдзел іх членаў у дыскусіях, дабіваецца грунтоўнасці ўсіх вывадаў;

прымае рашэнні аб прысуджэнні прэмій і прапануе іх на зацвярджэнне Прэзідыуму Вярхоўнага Савета і Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь;

афармляе дыпломы і Ганаровыя знакі лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і наладжвае іх уручэнне;

арганізуе выплаты лаўрэатам грашовай часткі прэміі;

садзейнічае распаўсюджванню сродкамі масавай інфармацыі творчага вопыту і дасягненняў лаўрэатаў.

4. Камітэту надаецца права:

утвараць секцыі і экспертныя камісіі па асобных галінах літаратуры, мастацтва і архітэктуры, журналістыкі, тэорыі і гісторыі мастацкай творчасці для разгляду вылучаных на прэмію работ і падрыхтоўкі абгрунтаваных заключэнняў аб узроўні гэтых работ, а таксама рэкамендацый па іх;

накіроўваць на экспертны разгляд навукова-даследчым і вышэйшым навучальным установам, міністэрствам і ведамствам вылучаныя на атрыманне прэміі творы і работы;

накіроўваць членаў Камітэта або экспертаў знаёміцца на месцы з манументальнымі творамі і работамі;

запрашаць да рэцэнзавання вылучаных работ спецыялістаў у галіне літаратуры, мастацтва, архітэктуры з аплатай са сродкаў Міністэрства культуры рэспублікі;

кантраляваць захаванне ўстаноўленага парадку вылучэння і экспертнага разгляду работ, прадстаўленых на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

5. Пасяджэнні Камітэта лічацца правамоцнымі пры наяўнасці не менш 2/3 яго складу. Рашэнні Камітэта аб адборы работ для далейшага абмеркавання прымаюцца тайным галасаваннем. Для вылучэння работы на конкурс яна павінна набраць не менш 1/2 галасоў, а для прысуджэння прэміі — не менш 3/4 галасоў ад ліку прысутных.

Калі на Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь вылучана работа члена Камітэта, аўтар яе не прымае ўдзелу ў рабоце секцый і пленумаў Камітэта, якія разглядаюць творы, вылучаныя на атрыманне прэмій.

6. Рашэнні Камітэта аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь уступаюць у сілу пасля іх зацвярджэння Прэзідыумам Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

7. Камітэт мае гербавую пячатку са сваёй назвай.

* У далейшым — Камітэт.

**Зацверджаны пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 мая 1992 г. № 1671-XII**

# СКЛАД

## Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

**Гілевіч Н. С.** — народны паэт Беларусі, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь, прафесар (старшыня Камітэта).

**Шарангovіч В. П.** — графік, рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў, народны мастак Беларусі (намеснік старшыні Камітэта).

**Юрэвіч У. М.** — празаік, крытык, заслужаны работнік культуры Беларусі (адказны сакратар Камітэта).

**Адамчык В. У.** — празаік, галоўны рэдактар часопіса «Бярозка».

**Барадулін Р. І.** — паэт, загадчык рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура».

**Брыль І. А.** — народны пісьменнік Беларусі.

**Буралкін Г. В.** — старшыня праўлення Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь, скульптар.

**Быкаў В. У.** — народны пісьменнік Беларусі.

**Бялянкін В. С.** — архітэктар Белдзяржпраекта, заслужаны архітэктар Беларусі.

**Вашчанка Г. Х.** — прафесар Беларускай акадэміі мастацтваў, народны мастак Беларусі.

**Вярцінскі А. І.** — паэт, заслужаны работнік культуры Беларусі.

**Гільдзюк Ю. М.**—піяніст, мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

**Градаў Ю. М.** — галоўны архітэктар праектаў інстытута «Мінскпраект», заслужаны архітэктар Беларусі.

**Далідовіч Г. В.** — пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць».

**Дашук В. Н.** — кінарэжысёр, народны артыст Беларусі.

**Дрынеўскі М. Н.** — хормайстар, старшыня праўлення Саюза музычных дзеячаў Рэспублікі Беларусь, народны артыст Беларусі.

**Дудараў А. А.** — драматург, галоўны рэдактар часопіса «Мастацтва Беларусі», старшыня праўлення Саюза тэатральных дзеячаў Рэспублікі Беларусь.

**Еўдакімаў У. М.** — намеснік дырэктара інстытута «Гроднаграмадзянпраект», заслужаны архітэктар Беларусі.

**Жук А. А.** — пісьменнік, член рады Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь.

**Заборскі Г. У.** — галоўны архітэктар праектаў інстытута «Дзіпрасельбуд», народны архітэктар СССР.

**Законнікаў С. І.** — паэт, галоўны рэдактар часопіса «Полымя».

**Захарэвіч М. Г.** — артыстка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, народная артыстка Беларусі.

**Зуёнак В. В.** — паэт, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь.

**Кавалеўскі Я. М.** — архітэктар, старшыня праўлення Саюза архітэктараў Рэспублікі Беларусь.

**Казінец М. А.** — рэктар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, народны артыст Беларусі.

**Казько В. А.** — пісьменнік, галоўны рэдактар сцэнарнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм».

**Калеснік У. А.** — літаратуразнавец, прафесар, прарэктар Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна, заслужаны дзеяч вышэйшай школы Беларусі.

**Картэс С. А.** — кампазітар, дырэктар Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі.

**Карачун Ю. А.** — мастацтвазнавец, дырэктар Дзяржаўнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.

**Кашкурэвіч А. М.** — мастак-графік, народны мастак Беларусі.

**Класкоўскі А. У.** — намеснік галоўнага рэдактара «Народнай газеты».

**Клебановіч М. І.** — празаік, галоўны рэдактар сцэнарнай калегіі і творчага аб'яднання «Тэлефільм».

**Красінскі А. В.** — сустаршыня праўлення Саюза кінематаграфістаў Рэспублікі Беларусь, доктар мастацтвазнаўства.

**Крыжаноўскі М. А.** — аглядальнік абласной газеты «Віцебскі рабочы».

**Кудравец А. Н.** — пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Нёман».

**Куліцкі А. В.** — рэдактар «Настаўніцкай газеты».

**Куляшоў У. А.** — артыст Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа, народны артыст Беларусі.

**Куляшова Г. Р.** — загадчык аддзела Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, доктар мастацтвазнаўства.

**Лукашук А. М.** — галоўны рэдактар выдавецтва «Беларусь».

**Лучанок І. М.** — кампазітар, старшыня праўлення Саюза кампазітараў Рэспублікі Беларусь, народны артыст СССР і Беларусі.

**Літвіна Ж. М.** — галоўны рэдактар Галоўнай рэдакцыі вяшчання для моладзі Беларускага радыё.

**Мяснікоў А. Ф.** — палітычны аглядальнік газеты «Звязда».

**Навуменка І. Я.** — пісьменнік, акадэмік Акадэміі навук Беларусі.

**Нікіфараў В. А.** — кінарэжысёр, сустаршыня праўлення Саюза кінематаграфістаў Рэспублікі Беларусь.

**Разанаў А. С.** — паэт.

**Рылатка У. П.** — намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь.

**Савіч У. П.** —мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі.

**Савіцкі М. А.** — жывапісец, народны мастак СССР і Беларусі.

**Сачанка Б. І.** — пісьменнік, загадчык рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура».

**Скарабагатаў В. І.** — саліст Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, заслужаны артыст Беларусі.

**Смольскі Д. Б.** — кампазітар, народны артыст Беларусі.

**Тураў В. Ч.** — кінарэжысёр, народны артыст СССР.

**Чыгрынаў І. Г.** — пісьменнік, старшыня праўлення Беларускага фонду культуры, галоўны рэдактар часопіса «Спадчына».

**Шамякін І. П.** — народны пісьменнік Беларусі, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі.

**Янкоўскі Р. І.** — артыст Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага, народны артыст СССР.

**Яроменка М. М.** — прэзідэнт Канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў Рэспублікі Беларусь, народны артыст СССР.

# Ад Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

(Пачатак на стар. 1).

3. Шматсерыйны мастацкі тэлефільм «Плач перапёлкі» вытворчасці кінастудыі «Беларусьфільм» — рэжысёр-пастаноўшчык **Дабралюбаў** Ігар Міхайлавіч, аўтар сцэнарыя **Чыгрынаў** Іван Гаўрылавіч, аператар-пастаноўшчык **Рудзь** Аляксандр Феліксавіч, мастак-пастаноўшчык **Мацвяйчук** Алім, кампазітар **Кандрусевіч** Уладзімір Пятровіч, гукааператар **Галаўніцкі** Уладзімір Пятровіч, артысты: **Гарачы** Эдуард Мікалаевіч, **Белахвосцік** Валянцін Сяргеевіч, **Мархель** Таццяна Рыгораўна, **Акружная** Святлана Арцёмаўна, **Шмакаў** Фёдар Іванавіч, **Булдакоў** Аляксей Іванавіч, **Кармунін** Павел Васільевіч, **Дубашынскі** Павел Піліпавіч — выканаўцы роляў.

Прадстаўлены нарадай работнікаў бібліятэчных сістэм Магілёўскай вобласці і абласной аб'яднанай бібліятэкай імя У. Леніна, падтрыманы мастацкім кіраўніцтвам Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа (Віцебск).

4. **Шавялевіч** Віктар Васільевіч — рэжысёр Беларускага тэлебачання за стварэнне аўтарскага цыкла дакументальна-публіцыстычных фільмаў «Да вас, сучаснікі мае».

Вылучаны агульным сходам працоўнага калектыву галоўнай рэдакцыі па вытворчасці тэлефільмаў і калегіяй Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па тэлебачанні і радыёвяшчанні.

### У ГАЛІНЕ ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА

1. **Агуновіч** Эдуард Канстанцінавіч—мастак, за распрацоўку і стварэнне экспазіцыі музея Максіма Багдановіча ў Мінску і музея партызанскай славы ў г. п. Ушачы на Віцебшчыне.

Вылучаны калегіяй Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і падтрыманы праўленнем Беларускага фонду культуры.

2. **Селяшчук** Мікалай Міхайлавіч — мастак, за серыю графічных лістоў «Святы» («Каляды», «Гуканне вясны», «Вербніца»), аўтабіяграфічны цыкл жывапісных палотнаў і серыю жывапісных карцін «Мая Беларусь», ілюстрацыі да паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка», кнігі «Сказки белорусских писателей».

Вылучаны прэзідыумам праўлення Саюза мастакоў Беларусі.

●

Камітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры просіць творчыя арганізацыі, установы культуры, аддзяленні Беларускага фонду культуры, шырокую грамадскасць наладзіць абмеркаванне твораў і работ, прадстаўленых на атрыманне Дзяржаўных прэмій Беларусі.

Водгукі, матэрыялы абмеркавання і асабістыя заўвагі просім дасылаць да 1 лістапада 1992 г. на адрас Камітэта: 220600, Мінск, вул. Фрунзе, 5, Дом літаратара, пакой 305. Тэлефон: 36-12-04 (з 14 да 18 гадзін).

**Старшыня Камітэта Ніл ГІЛЕВІЧ.**

**Мікола КУПРЭЕЎ**



# Летувіскі хутарок

«Няможна было пазнаць Монцю. Сляды мук, перажытага сораму і гвалту адбіліся... на твары...
...— Калі будзе, то і твой гэта дзіцёнак.
...— Не хачу я яго,— залівалася слязамі Монця».
М. Гарэцкі. «Літоўскі хутарок» (1915 г.)

Чарот закалыханы Нярысам сонным,
аўкштайцкія пеўні на жэрдках паснулі,
калыска ля ложка маўчыць, на дарозе спакойна,—
адчыні ж мне дзверы, самотная Монця,
стаю ля варотаў у белай гудайскай * кашулі,
і пялёстак шыпшыны з гудайскага берагу Віліі,
мілая,
б'ецца ў шыбу твайго аконца.

Я не расейскі салдат, і дух прускі растаяў,
на непрытульным Усходзе згібеў Гарэцкі,
толькі ўздых твайго бацькі з пустой летувіскае стайні
лісце ліпы над полем задумна калыша,
горка смяецца Ядвіська з травы ля рэчкі,
і пра вашу слязу
на тым беразе Віліі,
мілая,—
Максімаў няма! — ніхто сёння не піша.

Не чуў твайго крыку ля прускіх акопаў і рускіх:
мой конь капытамі не біў пад штандарам Пагоні,
шчэ ён і зачаты не быў на лугах беларускіх,
шчэ гарадзішчы мае не згадалі Міндоўга,
шчэ мае «Хутарком» не ўстрывожаны скроні,—
ды скамянелы твой крык я на беразе Віліі,
мілая,
пачуў у нябёсах Вялікага Княства, крык доўгі.

Мой конь заблудзіўся ў Саюзе. Збоч Меднікаў
на хутар ішоў праз лясныя нетры —
разам з табою і слухаць, і бачыць, якая
зорная ноч над разбітаю нашай дарогай,
як гайдаюцца сосны балтыйскім ветрам.
І хмарка з гудайскага берагу Віліі,
мілая,
цёпла праліцца хоча над вашым парогам.

Світае. Шапчу: «Лаба дзена»*. Жалейка ў даліне
плача і кліча — ці гэта прыгожа
здаецца! Крывавяць ля ганку сціхлыя гронкі каліны.
Дзе ўздыхнула дзяўчынка далёкай вясною —
калючая груша з-за плоту працягвае вецце.
Ты ўся тут, усюды. Над хатай — бяскрылая
мілая! —
журліва ўзмахнула прывіднай рукою.
Ах, гэтых пакутаў і казак нам хопіць!
Гайдалі калыску вятры між Масквой
і Берлінам.
Інтэрпрах у калысцы. Высокі хлопец
сячэ старажытным мячом літоўскім вяроўкі тугія.
Гляджу і маўчу. Я забыўся, што быў я ліцвінам.
Нехта шэпча: «Су дзеў»*. І брыду на змялелую Вілію,
мілая,
брыду ў беларускія травы сухія, глухія.

* Летувісы завуць беларусаў гудамі.

* Лаба дзена (лет.)—добры дзень.
* Су дзеў (лет.)—з богам.

# 2086 г.

Чарвяк я. Чырвонай халоднай вадою напоўнены
клеткі майго пакручастага цела.
З падземнае цемры
выпаўз наверх праз калючы пясок у світанак золкі
пад дубам струхлелым. Не ведаю:
восень! вясна! Навокал
ні лісціка, ні травінкі. З чорных комінаў Калыбані
белы чарнобыл-палын у жоўтае неба віецца.
Клеткамі чую і бачу, сказаць не магу нічога —
таму я пішу-малюю згібамі цела
на вострым пяску, ля канавы Прыпяці.
Пясок цела рэжа. Чырвоныя кроплі
вады маёй камянеюць
і коцяцца ў Прыпяць-канаву.

Мне добра ў глыбінях зямлі — пад былою ракою,
пад котлішчам — колішняй вёскай, пад Беларуссю,
дзе некалі бегаў, хадзіў, і лятаў, і плаваў,
цалаваў у Нароўлі дзяўчынку ў лодцы на хвалях Прыпяці.
Хлопчыкам быў, юнаком, мужчынам—
цяпер я чарвяк, халоднай вадою напоўнены.
Зноў шукаю мякчэйшай зямлі — прасачыцца ў глыбіні,
дзе ў нас камендантам чарвяк акадэмік Лігасаў,
а прыбіральшчык — чарвяк адвакат Вульянаў.

Па дарозе ў глыбіні вітаюся моўчкі з паэтам —
цяпер чарвяком Шклярэўскім,— цярпліва шукае
над Прыпяццю лес свой, які пасадзіў на Дзяржаўную прэмію.

Настрэчу — самы сумленны чарвяк Адамовіч,
хоча крыкнуць — не можа, звіваецца ў слова «Вандэя»,
адчайна крутнуўся кудысьці ў пошуках ісціны.
Скруціўся ў пакутах чарвяк Слюнькоў — былы Першы,
цяжка прабіцца ў родную Гомельшчыну, хочацца плакаць,
няўтульна было і ў глыбінях маскоўскіх —
пусціце яго на пакуты ў мёртвых палескіх тарфяніках,
даруйце яму, быў сляпы і глухі, пусціце.

Б'юць з нябёсаў званы беларускіх цэркваў —
толькі яны і жывыя, і ў іх апантаным звоне
я, чырвонай халоднай вадою напоўнены,
чую крык маёй колішняй роднай мовы,
чую ціхае ў звоне высокім маленне
нашай вечнай Жанчыны Полацкай.

Дайце дарогу, браты-чарвякі, прапусціце, стаміўся—
паўзу я спачыць у нетры пад роднае Ямнае.

# Новы Цыклоп

У пячоры светла і цёпла.
Вольны з пячоры выхад.
Цалуе Цыклоп мяне ў горла—
аж не дае мне дыхаць.

І старажытна рагоча:
«Папаўся — паэт! — у лапы,
Гамеравай славы хочаш
і няволі — да славы!
Герояў было нямала,
за імі сачыў я зорка —
Кабзары і Купалы,
Мандэльштамы і Лоркі.
Але ты хто, Мікола!
Чаго ты! Адкуль ты!
Якое трасцы, з якое долі
шукаў у мяне пакутаў!
І — на дошцы па моры!
Ах вы, новыя адысеі,
сядзелі б сабе ў канторах,
паціху паўнелі б, лысэлі.
Дзе меч! Дзе згубіў сваю дзіду!
Што мне твае санеты!
Якую Ітаку-радзіму
змяніў на пячору гэту!»

Выпхнуў на волю. Круча
над старажытным морам.
Ляцяць адысеі па хвалях грымучых
і паэты ў вышынях зорных.
Цыклоп камянямі крутымі
заваліў уваход у пячору:
«Не пушчу! Тыя былі святымі,
яны — маё вечнае гора!»
Да мяне ён схіліўся нізка,
на ўсход павярнуў за плечы:
«Там, на лугах альпійскіх,
шукай і пасі мне авечак».

# Самотны вянок

Т. ГАЎРЫС

Хіснецца
цень вечаровы.
І нехта балюча ўсміхнецца
пад асенняй чаромхай.

А хто — і не ведаю.
Можа, у небе імя засвіціцца...

Спынілася ўспомніць —
стаіць перад Летаю
мая запыленая калясніца.

●

Алешына наша ля Начы...
Згарэла ў Алесінай печы.
Хмарка — дымок, няйначай,
з алешынкі нашай нявечнай.

●

Счарнелая лодка на беразе.
Па дошцы трава парасла.
У затоцы — паранены селязень...
Ні ракі, ні цябе, ні вясла.

ДУМКА ЧЫТАЧА

# Пошукі свайго «Я»

Сваю размову я хачу пачаць з таго, што ўсе мае словы і думкі з'яўляюцца маімі асабістымі, гэта мой погляд на праблему. Мне здаецца, што не дрэнна было б усім навучыцца браць адказнасць на сябе за свае словы і пачынаць выказванне так: «Я думаю, я разважаю...» На жаль, «яканне» ніколі не падтрымлівалася ў нашай культуры, дзе ўсё было наша і гаварылі «я» ад імя ўсіх, дзе існавала і была карыснай калектыўная, а не асабістая думка.

Апошнім часам мы часта разважаем аб сваёй нацыянальнай прыналежнасці. І гэта невыпадкова, бо зараз парушаны ўсе сувязі паміж чалавекам і грамадскасцю. А між іншым, кожнаму з нас трэба бачыць сябе ў нейкай сістэме чалавечых узаемаадносін. У сацыяльнай псіхалогіі ёсць такі тэрмін — рэферэнтная група. Ён азначае рэальныя ці ўмоўныя сацыяльныя групы, з якімі індывід параўноўвае сябе як з эталонам і на нормы якой ён арыентуецца ў сваіх паводзінах. Напрыклад, я з'яўляюся членам сям'і, я адношу сябе да кампаніі сваіх сяброў, я адчуваю сябе членам групы студэнтаў, якія вучацца разам са мною, але я таксама адношу сябе і да нейкай вялікай сацыяльнай групы, якая аб'ядноўвае шмат людзей па сацыяльнай прыкмеце (пол, узрост, нацыянальнасць, вера, палітычная прыналежнасць і г. д.). Пабачым, як атрымліваецца ўсё на самай справе. З сям'ёй усё, дзякуй Богу, добра, з сябрамі—таксама, з калегамі-студэнтамі — так-сяк. А вось як быць з так званымі вялікімі сацыяльнымі групамі?

Да апошняга моманту большая і лепшая частка з нас была камуністамі, астатнія рыхтаваліся да гэтага ганаровага звання ў камсамоле, у піянерыі ці ў краіне акцябрат. Была яшчэ маленькая частка тых, хто нікуды сябе не адносіў, але ўсе маглі з гонарам зваць сябе савецкімі людзьмі. Зараз са старонак усіх газет і часопісаў, з блакітных экранаў тэлевізараў мы чуем і бачым толькі адно: 70 год нас выхоўвалі як «саўкоў», але сёння мы ўсё зразумелі і мы не саўкі, мы не бездухоўныя жывёліны, мы не часткі дзяржаўнай машыны, мы не, не і г. д.

А вось калі «не» ў адмоўнай форме, то хто мы? Саюза больш няма і савецкіх людзей таксама, мы разбегліся па розных краінах. Канечне, можна ўступіць у нейкую партыю і адчуваць сябе барацьбітом за незалежнасць і справядлівасць. Але, напрыклад, у маёй галаве ўсе партыі ўжо пераблыталіся разам са сваімі праграмамі і абяцаннямі. Так што са сваім палітычным выбарам я пакуль пачакаю.

Такім чынам, застаецца адна вялікая сацыяльная група, з якой я змагла б сябе параўнаць — гэта мая нацыя, мой народ. Нездарма пачуццё нацыянальнасці павінна было знікнуць у працэсе «збліжэння» і аб'яднання ўсіх нацый у вялікі, магутны савецкі народ. Але нацыянальнасць — гэта тое, што нельга парушыць ці забараніць, яна ёсць аб'ектыўная з'ява і яна будзе існаваць без залежнасці ад нашых жаданняў. Пачуццё нацыянальнасці — магутная сіла, і карыстацца ёй трэба з вялікай асцярогай. Сёння людзі зразумелі, што кожны з іх увасабляе ў сабе частку сваёй нацыі, свайго народа.

Але не ўсе былі задаволены тым, што распалася «вялікая сям'я савецкіх народаў». Нейкая частка людзей (на мой погляд, гэта тая, што лічыць сябе сапраўдным савецкім народам неіснуючай краіны) заяўляе так: ну, з каўказцамі ўсё зразумела, але вось вы, беларусы, чым вы адрозніваецеся ад рускіх? Украінцы хоць амаль што ўсе мову сваю ведаюць, а вы як? Калі мяне спыталі так першы раз, я разгубілася — што адказаць? І сапраўды, з мовай у нашай рэспубліцы становішча вельмі цяжкае.

І я адкрыла літаратуру па этнапсіхалогіі (гэта галіна псіхалогіі, якая вывучае псіхалагічны бок жыцця розных народаў). І вось што я там прачытала: «прыналежнасць чалавека да нацыянальнасці вызначаецца не тым, на якой мове ён гаворыць, ці месцам яго жыхарства, а тым, да каго ён сябе адносіць, з якой нацыянальнасцю ён сябе ідэнтыфікуе». Значыць, я магу называць сябе беларусам нават калі і не ведаю беларускай мовы, але пры гэтым мая нацыянальная самасвядомасць дазваляе мне адчуваць духоўную блізкасць да беларускага народа. Я згодна з тым, што мову можна вывучыць, але любоў да народа, да яго традыцый, гісторыі з'яўляецца часткай асобы і выхоўваецца з маленства. Як жа было з намі? Маё нацыянальнае пачуццё асабліва абвастрылася пасля чарнобыльскай катастрофы. Я як бы інстынктыўна адчула пагрозу майму народу, яшчэ нічога не ведаючы са сродкаў масавай інфармацыі аб памерах напаткаўшай нас бяды.

**Тады я вучылася ў восьмым класе. Большасць дзяцей летам вывозілі з горада (я жыла ў Гомелі). Выехала і наша школа. Летам 1986 года мы адпачывалі ў Саратаўскай вобласці, а летам 1987 — у Краснадарскім краі. У Саратаве размясцілі нас добра, харчаванне было неблагое. Але калі мы наведаліся ў суседнюю вёску, то былі здзіўлены не вельмі ветлівым прыёмам. Яшчэ больш нас здзівіла адсутнасць кветак, якіх так шмат у нашых беларускіх вёсках. Уразіла нас і тое, што гніюць у садах сельскіх гаспадароў яблыкі, грушы, так мала гародніны на прысядзібных участках.**

**У наступным годзе мы вельмі радаваліся, калі даведаліся, што паедзем у Краснадарскі край. Але і тут чакалі нас непрыемнасці. Нас высадзілі з цягніка пасярод поля; дзве гадзіны чакалі, каб хто-небудзь звярнуў на нас увагу. К вечару прывезлі ў лагер — былы лагер працоўнага перавыхавання («ЛТП») з калючым дротам вакол тэрыторыі. Харчаваліся ў сталоўцы, і атрымлівалася так, што хто быў першым, той быў пад'еўшы. На вінаграднік павезлі зранку на наступны дзень. Сонца пякло бязлітасна. Норму выконвалі напалову, а калі і менш, таму і зарабілі за 3 тыдні па аднаму рублю і сорак капеек. Паколькі ў сталоўну не заўсёды паспявалі першымі, то знайшлі поле з морквай. Калі мы з'елі яе, то ўбачылі маленькую шыльдачку: «Увага! Атручана нітратамі! Есці забаронена!» Усё скончылася тым, што мы ўсе захварэлі. Тады я адчувала несправядлівасць у адносінах да нас, дзяцей, якім і так не вельмі пашанцавала ў жыцці. Я была ўпэўнена ў тым, што ў нас на Беларусі сустрэлі б дзяцей па-іншаму.**

Для чаго, скажаце вы, успомніла я падзеі пяцігадовай даўнасці? Я згодна, што гэта ўсе адзінкавыя выпадкі, з якіх нельга рабіць абагульняючых вывадаў. Але ці не на такіх прыкладах робяцца нацыянальныя стэрэатыпы, ад якіх ох як цяжка адмаўляцца з гадамі. І вось атрымліваецца, што вобраз свайго народа ўзнікае ў супрацьстаўленні з іншым народам: **мы не такія, як яны.** Можна падысці да гэтага пытання і з другога боку, і пачаць сваё нацыянальнае нараджэнне з таго, каб зазірнуць у глыбіню сябе і адшукаць там сваё «Я». І нічога, што вы пакуль не ведаеце мовы, гісторыі і культуры свайго народа. Калі вы сапраўды адчуеце сябе духоўна звязаным са сваім народам, у вас з'явіцца патрэба і магчымасць вывучыць сваю мову, сваю гісторыю, сваю культуру. І гэта будзе не патрэба часу ці ўрада, а асабістая патрэба, асабістае жаданне. Толькі прапусціўшы яго праз сябе, перажыўшы, асэнсаваўшы і прыняўшы яго, вы зразумееце, што трэба вам рабіць.

І вось таму мне здаецца, што пошукі сваёй нацыянальнай прыналежнасці — гэта не даніна модзе ці нейкае вар'яцтва, як гэта думаюць некаторыя, а неабходны працэс самавызначэння.

**Ірэна БЕТАНАВА,**
**студэнтка факультэта псіхалогіі Маскоўскага універсітэта, сябра Згуртавання беларускай моладзі ў Маскве «Пагоня».**

# Работы край непачаты

Цімох ЛІЯКУМОВІЧ

АСНОЎНЫ пафас артыкулаў А. Лойкі «З настальгіяй па тэорыі» і Ю. Лявончыка «Правінцыя» злабадзённы: у іх гучыць заклік да неабходнасці пашырэння магчымасцей беларускага літаратуразнаўства, роздум аб неабходнасці яго інтэграцыі ў сусветны літаратурны працэс, а таксама робіцца спроба не толькі выявіць прычыны адставання нацыянальнай навукі аб літаратуры, але і намеціць шляхі да яе ўздыму. Гаворка на гэту тэму наспела: крытыка і літаратуразнаўства патрабуюць карэннай перабудовы, асэнсавання новых прынцыпаў, адпаведных новаму светапогляду.

У чым бачыць прычыны адставання нашага літаратуразнаўства А. Лойка?

1. Беларускае літаратуразнаўства зазнала ўрон ад рэпрэсій.

2. Бальшавіцкая дэмагогія і міфы заміналі навуцы аб літаратуры на шляхах да ісціны.

3. Беларускае літаратуразнаўства «ў цэлым было нарматыўна сплецена з эстэтыкай рэалізму і народнасці рускай літаратуры XX стагоддзя як з фактарам устарэлым, зжыўшым сябе, рарытэтным». Прынцыпы крытычнага рэалізму і народнасці заміналі развіццю беларускай літаратуры і літаратуразнаўства і прывялі іх да абяскроўлівання.

4. Беларускае літаратуразнаўства аказалася адключаным ад развіцця літаратуразнаўства еўрапейскага і амерыканскага.

Выяўляецца ў артыкуле і асноўная сённяшняя задача: канцэптуальна пераасэнсаваць развіццё беларускай літаратуры ў XX стагоддзі. Намячаюцца і шляхі да вырашэння гэтай задачы.

Назва ж артыкула Ю. Лявончыка «Правінцыя» сведчыць, што яе аўтар невысокай думкі пра дасягненні беларускай літаратары, творы якой лічыць «перапевамі» вядомага з іншых літаратур. Што датычыць літаратурных і крытычных прац, то яны ўяўляюцца яму проста «эрзацам».

Ю. Лявончык, як і А. Лойка, прапануе для ўздыму беларускага літаратуразнаўства накласці ідэі сусветнавядомых літаратуразнаўцаў «на нашу літаратуру і паглядзець, што з гэтага атрымаецца».

Артыкулы напісаны з пазіцый шчырай заклапочанасці станам роднай літаратуры, далейшым лёсам беларускай крытыкі і літаратуразнаўства, жаданнем узняць іх на новыя прыступкі. Безумоўна, ніхто не стане пярэчыць, што неабходна ўзняць праблемна-тэарэтычны ўзровень навукі аб літаратуры, што літаратуразнаўцам неабходна правесці ачышчальную работу, каб адмовіцца ад запанаваных «у савецкай шматнацыянальнай літаратуры, усталяваных культам, рэпрэсіямі, ідэалагічным прэсам, нарматыўнасці, ідэалізацыі, псеўдагераізацыі», што «выдавалася за праўду жыцця і мастацтва, за літаратуру найлепшую ў свеце — літаратуру сацыялістычнага рэалізму».

Вядома, трэба ўлічваць усё тое, што выявіў час. Надышла пара пераглядзець стэрэатыпы, якія на паверку аказаліся памылковымі, надуманымі. Наша літаратуразнаўства мае магчымасць развівацца больш інтэнсіўна.

Што добра, тое добра. Але да асобных палажэнняў названых артыкулаў нам, здаецца, не перашкодзіць прыгледзецца ўважліва, паразважаць, наколькі яны бясспрэчныя.

Так, А. Лойка лічыць, што неабходна адмовіцца ад «дзялення літаратуры на перадавую, дэмакратычную, рэвалюцыйную і народную і нібыта ненародную элітарную, звязаную з так званым мастацтвам для мастацтва». Гэта палажэнне вымушае нагадаць, што літаратурная крытыка з'яўляецца відам літаратурнай творчасці, якая заклікана даць адзнаку і вытлумачыць мастацкі твор, а таксама тым *з'явам жыцця*, якія ў ім адлюстраваны. З'явы ж жыцця бываюць розныя. Ёсць рэакцыя і прагрэс, ёсць зло і дабро. А зло і цемрашальства маюць сваіх трубадураў. Ці ж можна называць народнымі творы, у якіх прапаведваюцца антынародныя, антычелавечыя ідэі?

У асобе пісьменніка хочацца бачыць уладара дум, настаўніка, калі не прарока, то хаця б чалавека, якому можна верыць, з якім можна параіцца ў цяжкі час, у творах якога можна адшукаць адказ на вострыя пытанні часу. Ды і сцвярджэнне А. Лойкі, што літаратуры «ніяк нельга адмежавацца ж і ад гісторыі, ад перыпетыі барацьбы народа за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне» (а хіба гэта пафас творчасці кожнага пісьменніка?), супярэчыць думцы, што да народнай літаратуры можна аднесці ўсё, што з'яўляецца з-пад пяра любога пісьменніка, без уліку яго светапогляду і своеасаблівасці мастацкай манеры. Не, не ўсё ў літаратуры мае права прэтэндаваць на званне народнага!

Далей А. Лойка заклікае «цалкам рэабілітаваць форму як мастацкую каштоўнасць». Ды нельга забываць, што па значнасці змест і форма твора непарыўныя, нераздзельныя. Яны даюць уяўленні аб знешніх і ўнутраных баках твора: «Форма есть не что иное, как содержание в его непосредственно воспринимаемом бытии, а содержание есть не что иное, как внутренний смысл данной формы» («Лит. энциклопед. словарь»). Адсутнасць гармоніі паміж зместам і формай па сутнасці адно з першых сведчанняў таго, што твор не здзейсніўся як мастацкі.

Відаць, А. Лойка мае намер узняць значнасць твораў, у якіх змест не мае сваёй прадметнасці, абсалютызуецца форма. Але ўсё ж сорамна «в годину горя Красу долин, небес и моря, И ласку милой воспевать» (М. Някрасаў). Усяму свой час. Прынцып гістарызму нельга выпусціць з-пад увагі, калі размова ідзе пра літаратурны твор. Уявім сабе на міг, што Купала ў першыя цяжкія гадзіны Вялікай Айчыннай вайны замест верша «Беларускім партызанам» стварыў бы твор далёкі ад тагачасных перажыванняў людзей, над якімі навісла смяротная пагроза знішчэння, — верш, у якім захапляўся б, у лепшым выпадку, шчабятаннем птушак ці журчаннем ручайка, або ў горшым — стварыў бы завумны верш з гукавых практыкаванняў, у якім словы б гучалі «загадкой бледной» (М. Мінскі). Ужо само такое ўяўленне здаецца кашчунствам! У складаных гістарычных абставінах (а калі яны бываюць простымі?) чалавек не можа заставацца «бесстрастным, уходящим, безучастным», бо на зямлі, паўтараемся, суседнічаюць дабро і зло, і яшчэ невядома, ці надыдзе часіна, калі дабро канчаткова пераможа зло. Дык ці можна бязмэтнае пляценне слоў і адмысловы падбор гукаў назваць народным мастацтвам? Слоўныя экзерсісы нельга выдаваць за высокія дасягненні літаратуры. Безумоўна, слоўныя выкрутасы, пляценне славеснай тканіны могуць выклікаць захапленне ў літаратурнага гурмана, але назваць такія практыкаванні (нават таленавітыя, геніяльныя) народнымі не ўяўляецца магчымым. Менавіта ж за яснасць і прастату, за гармонію пачуцця і слова, зместу і формы сусветна любімым паэтам зрабіўся Пушкін. А ці стаў любімцам хаця б аднаго народа паэт, які толькі «гуляў» са словам?

Відаць, мае рацыю С. Дубавец (артыкул «Падставы рацыянальнага нацыяналізму». «ЛіМ», 13.3.1992), калі адзначае тры ўзроўні стваральнікаў і спажыўцоў літаратуры ў сучаснай Беларусі: першы — «узровень Багушэвіча, народнага чытання», які складаецца з твораў, напісаных натуральным жывым словам пра адвечнае, уяўляюць сабой уразлівы, дабротны і таленавіты расповяд пра сітуацыі жыцця; другі ўзровень (умоўна названы крытыкам «нашаніўскім») складаецца з твораў, у якіх ставяцца складаныя праблемы жыцця; трэці ўзровень («інтэлектуальная эліта нацыі» — «еўрапейскія мадэлі мыслення», «неба нацыянальнага жыцця») «перакладае нацыянальную культуру на мову агульначалавечых каштоўнасцяў». Каштоўнасцяў! Не ўлічваць такі расклад пісьменнікаў і чытачоў нельга, каб не адарвацца ад зямлі — ад тых, для каго прызначана літаратура.

Ды і А. Лойка пярэчыць свайму заяўленню аб тым, што ўсякае мастацтва аднолькава народнае. Ён падкрэслівае, што неабходна ствараць *сапраўднае* мастацтва, а не наогул мастацтва, і яго азначэнне сапраўднага мастацтва ўбірае ў сябе адзінства формы і зместу (невыпадкова аўтар выкарыстоўвае тэрмін «сапраўднае мастацтва»!): «*Сапраўднае* (разрадка тут і надалей мая.— **Ц. Л.**) мастацтва ў раўненні на ідэал, на прыгожае, вечнае. У мастацтве ўсё народнае, калі яно *сапраўднае*, калі пры красе і *дабры*. І ў цэлым мастацтва — штука элітарная, вынік *высокага духу*, *інтэлекту*, формы, красы. Не ў апусканні яго да «шырспажыву», да поп-арту, а ва ўзвышэнні». Хто ж, паўстае пытанне, супраць узвышэння мастацтва? Размова аб тым, што пад узвышэннем трэба разумець не толькі ўскладненне формы, але і ўзвышэнне значнасці зместу, жыццёвай вобразнасці, філасофскай насычанасці твора. Нельга не пагадзіцца з А. Твардоўскім, які лічыў сапраўдным вершам такі, які чытаюць людзі, што звычайна вершаў не чытаюць. Найвышэйшы крытэрый патрабавальнасці да жыццёвасці паэтычнага твора!

Насцярожвае думка А. Лойкі пра тое, што да мастацкага абяскроўлівання беларускай літаратуры прывялі прынцыпы крытычнага рэалізму і народнасці, запазычаныя ў рускай літаратуры. Ці ж гэта так?

Не выклікае сумненняў, што апалагізацыя рэалізму перашкаджала развіццю іншых літаратурных напрамкаў і гэта, зразумела, не было на карысць літаратурнаму працэсу ў рэспубліцы, як і ва ўсёй краіне. Сапраўды, абездухоўленыя дэмаралізаваныя, культава-панегірычныя, кан'юнктурна-ілюстрацыйныя творы, сурагат, падробка і імітацыя выдаваліся за мастацтва вышэйшага гатунку. Адмоўна сказаліся на развіцці літаратуры партыйныя пастановы 1946 года. Усё гэта так. Але

# Апантанасць мастака

«КРЫЖ на зямлі і поўня ў небе» («Юнацтва», 1991) — адна з тых кніг, час нараджэння якой цяжка вызначыць, таму што асэнсаванне тэмы «мастак і жыццё» з'яўляецца пастаянным аспектам пісьменніцкай думкі.

Аповесць-эсэ В. Карамазава пабудавана на матэрыяле дзённікавых запісаў жывапісца і паляўнічага Бялыніцкага-Бірулі, земляка празаіка. Ён жа з'яўляецца галоўным героем твора і сааўтарам апавядання. Абодва мастакі — мастак жывапісу і мастак слова — у пэўнай ступені падобны адзін на аднаго. Іх падабенства не столькі ў агульных інтарэсах (літаратура, жывапіс, паляванне), колькі ў самім падыходзе да навакольнага свету, у імкненні дайсці да разумення сутнасці жыцця чалавека на зямлі, яго прызначэння. Характэрна, што асэнсаванне гэтых пытанняў у Бялыніцкага-Бірулі ідзе ад асэнсавання сябе як мастака, як чалавека, нарэшце, як бацькі, як сябра, таму старонкі дзённікавых запісаў даюць уяўленне аб няспынных духоўных пошуках самога сябе. Яны сталі штуршком для далейшых разважанняў пісьменніка аб сапраўды таленавітым мастаку. В. Карамазаў вядзе апавяданне ў ключы, зададзеным яго сааўтарам, па гэтай прычыне няма рэзкага адрознення ў інтанацыйнай манеры абодвух апавядальнікаў: і ў аднаго, і ў другога апавяданне носіць характар філасофскага роздуму, разважання; акцэнт пераносіцца з дзеяння, падзеі, факта на чалавека, паказанага «знутры», на псіхалагічны аналіз яго стану. Учынкі, падзеі апісваюцца В. Карамазавым сцісла, гэта быццам радкі з біяграфіі мастака, затое асэнсаванне іх падаецца пісьменнікам шырока, доўгімі складанымі сказамі. Ускосная перадача аўтарам думак, разважанняў героя, яго вечных пытанняў да сябе знаходзіць сваё выяўленне праз вялікую колькасць пытальных сказаў. В. Карамазаў нанізвае іх адзін на адзін, каб выявіць душэўны неспакой, разлад у душы героя. «І калі прачнуўся, доўга думаў, што б усё гэта значыла: вада, неба, лапінка з крыжам? Ні да чаго не дадумаўся, толькі адчуў, што трэба ехаць туды, куды душа гоніць, — цяпер ужо гнаў і сон. Ці не саснілася ягоная вада, ягонае неба, ягоны крыж? Раптам гэта — будучая карціна? Але ці можа быць карціна, каб ваду і неба яднаў адно крыж? Без зямлі? І наогул ці здолее ён напісаць іх пасля таго, як гэтае сумежжа напісаў Левітан? Хто асмеліцца падумаць, што можна напісаць неба больш глыбока і неабсяжна, як у Левітана, што гэтак касмічна, з біблейскай магутнасцю можна ахапіць мастацкім рашэннем зямлю і неба, зямное і нябеснае? Левітан знайшоў і рэалізаваў ідэю ці не на мяжы магчымага і немагчымага, і як цяпер, пасля яго, пісаць зямлю, ваду і неба, не адчуваючы сябе ў яго палоне?»

Аналізуючы запісы Бялыніцкага-Бірулі, В. Карамазаў раскрывае вытокі мастака, вядзе гаворку пра перажытае ім, высвечвае кола яго інтарэсаў, сімпатый, захапленняў. Асобныя старонкі аповесці прысвечаны тым людзям, якія ўвайшлі ў жыццё жывапісца, садзейнічалі ягонаму станаўленню як мастака. Таму з такой дакладнасцю выпісвае В. Карамазаў партрэты Станіслава Жукоўскага, сябра па вучылішчу Маравава, сябра мастака-анімаліста Сцяпанава, але на першым плане партрэт Левітана—настаўніка і куміра Вітольда Каятанавіча. Улада яго над мастаком была неабмежаванай, як і ўлада прыроды, якая «над усім і ўсімі геніямі і рэвалюцыянерамі».

Вобраз Левітана быў для Бірулі меркай чалавечых якасцей і сапраўднага майстэрства, вось чаму дух Левітана вітае ў штодзённым жыцці Бірулі і вобраз яго займае так многа месца на старонках дзённіка. Майстэрства Левітана ні на хвіліну не дае спакою мастаку, які шукае «лад і гармонію свету ў вобразах, фарбах, контурах, перспектыве». Майстэрства Левітана стымулюе пошукі нерэалізаваных магчымасцей, пошукі сваёй мастацкай ісціны. «Нават у сталым узросце пры поўнай радасці радасць не поўная, бо да ўсяго ахвота была дайсці, усё ўбачыць, зразумець», — піша В. Карамазаў пра свайго героя. Убачыць, зразумець і перадаць у фарбах, колерах праз сваё ўспрыманне.

Адзначаючы пошукавы характар творчасці Бялыніцкага-Бірулі, В. Карамазаў як мастак не можа абысці пытанне аб ролі традыцый у развіцці мастацтва, таму аўтарскае апавяданне набывае яшчэ форму даследавання, празаік быццам праясняе шляхі станаўлення мастака, высвечвае яго творчыя арыенціры. «Пашану да папярэднікаў, выдатных настаўнікаў, ён сам пранёс праз усё жыццё ў сэрцы і не ўяўляў, як можна працаваць, рабіць нешта вартае, ігнаруючы мастацкія традыцый».

Праз скупыя на словы, але дакладныя і выразныя запісы Вітольда Каятанавіча В. Карамазаў убачыў не толькі апантанага мастака, але чалавека адкрытага і шчырага ў пачуццях. Гэта выклікала цікавасць да яго як да асобы, выклікала жаданне пазнаць таямніцу яго душы, як некалі хацеў знайсці разгадку Левітана сам Бялыніцкі-Біруля. В. Карамазаў добра разумее, што адсутнасць шчырасці ў дзённікавым жанры ёсць смерць яго. Разуменне гэтага ў спалучэнні з сапраўднай цікавасцю да жыцця і творчасці свайго земляка нарадзіла, у сваю чаргу, шчырасць апавядальніка. В. Карамазаў настолькі добра ведае жыццё Бірулі, што ствараецца ўражанне аб даволі блізкім знаёмстве з мастаком, якое па часе магло адбыцца, але, на жаль, не адбылося. Ён як мастак разумее мастака, яго захапленне тэмаю, вобразам, пошукамі адзінага патрэбнага тону. В. Карамазаў ужываецца ў абраную тэму настолькі, што аперыруе палітрай колераў мастака, адчувае іх адценні ў апісанні прыроды так, як гэта







— асіміляцыя. Варта нагадаць сюжэт нядаўняй тэлевізійнай перадачы канала «Астанкіна»: на экране — стараверскія іконы з Веткаўскага музея, а заклапочаны дыктар гаворыць пра забруджаную радыенуклідамі Ветку, пра неабходнасць ратавання каштоўных узораў «расійскага мастацтва» — веткаўскіх абразоў і перавозкі музея ў Маскву. А калі гэта не атрымаецца, дык, прынамсі, утварыць у расійскай сталіцы філію музея, перадаўшы туды частку экспанатаў. Дзяўчаты з гурта «Народный праздник», якія збіраюць рускі фальклор на Смаленшчыне, Браншчыне і Гомельшчыне, разам з мясцовымі жанчынамі спяваюць «расійскую» песню:

Кругам, кругам сонца
ходзіць
У нядзельку рана...
А дзе яно станавіцца?
Станавіцца ў Іваніцы,
У Іваніцы дзеўкі гладкі,
Дзеўкі гладкі,
хлопцы гадкі.

І ўжо Веткаўскі музей пачынае арыентавацца на творчасць стараабрадцаў, бо цікаўнасць да іх Масквы можа даць музею сродкі, на якія не расшчодрваецца Мінск.

Вынікі такога стаўлення беларусаў да сваёй культуры ўжо ёсць. Так, песні Гомельшчыны і Палесся, выдадзеныя на дысках «Мелодии» і касетах ЮНЕСКА, сабраны навукоўцамі з Расіі. Фальклор усходніх рэгіёнаў Беларусі ўжо ўключаецца ў дыскі з праграмамі народнай творчасці Заходняй Расіі.

У Ветцы будуецца Палац моладзі, а моладзь, ратуючыся ад радыяцыі, выязджае з горада.

Няма каму спяваць песні. Няма каму ткаць рушнікі, няма каму навучыць унукаў роднай мове — старыя дажываюць свой век. Пахаванне стралы яшчэ жыве. Пахаванне культуры — працягваецца.





В. ЯКІМОВІЧ,
У. ПАНАДА (фота).

адзін да аднаго) згодзен аддаць свае веды, вопыт, імпэт і шырокія сувязі на дабро Беларусі, без акадэмічнай зашоранасці, перапоўнены энергіяй чалавек, які марыць пра сваю Маці-Беларусь, пра служэнне ёй, каб урэшце са спакойнай душой спачыць на сціплых вясковых могілках ля вёскі Тударава, дзе заканчваўся жыццёвы кругабег ягоных дзядоў і прадзедаў.

Пасля звароту на Беларусь і сустрэчы ў Міністэрстве замежных спраў адбылася тэлефонная размова міністра П. Краўчанкі з Барысам Кітам. Знойдзена добрае паразуменне, наперадзе іх сустрэча, якая, спадзяёмся, будзе мець рэальныя і адчувальныя вынікі для нашай рэспублікі.

●

Сталыя сувязі наладжаны ў «Бацькаўшчыны» з Асацыяцыяй амерыканскіх цэркваў — арганізацыяй, якая на грунце хрысціянскай маралі займаецца разгалінаванай у розных абсягах дзейнасцю. Па лініі культурнага абмену да нас прыязджае група амерыканскай моладзі.

●

А з 8 па 14 чэрвеня «Бацькаўшчына» зноў прымала прадстаўнічую дэлегацыю ад гэтай Асацыяцыі амерыканскіх цэркваў на чале з сусветна вядомымі пастырамі, выкладчыкамі Бібліі. На працягу трох дзён яны прамаўлялі са сцэны Палаца трактарнага завода, дзе таксама гучалі рэлігійныя спевы і музыка, былі арганізаваны заняткі і забавы для дзяцей. Адметнасцю гэтага ад падобных мерапрыемстваў рэлігійнага прызначэння можна лічыць тое, што тут шырока выкарыстоўвалася беларуская мова, хоць, трэба сказаць, знайсці добрых перакладчыкаў з англійскай на беларускую ўсё яшчэ застаецца праблемай. Між тым праблема нацыянальнага самавызначэння, а яно ў першую чаргу датычыць мовы,— адна з самых істотных для нашага суверэнітэту і Адраджэння. Асабліва калі ўлічыць, якую ролю адыграў польскі касцёл і руская царква ў Беларусі для дэнацыяналізацыі беларусаў.

Менавіта на гэтым засяродзілі ўвагу ў сваіх выступленнях старшыня рады Згуртавання беларусаў свету Яўген Лецка і яго намеснік Леанід Казыра, выказаўшы ўпэўненасць, што слова Божае будзе спрыяць духоўнаму ўдасканаленню і самаўсведамленню народа, што Асацыяцыя амерыканскіх цэркваў паспрыяе беларусам і ў справе дапамогі пацярпелым ад Чарнобыля.

●

А вось ад супрацоўніцтва з італьянскай фірмай «Алімента», якая з'яўляецца даччыной у дачыненні да вядомага «Фіята», можа быць і якасная льняная тканіна, і алей, і цукар. Справа ў тым, што згаданая «Алімента» займаецца вырошчваннем і перапрацоўкай сельскагаспадарчай прадукцыі. Згодна атэстацыі кіраўніцтва Камітэта па знешнеэканамічных сувязях, з фірм, што апошні час наведалі Беларусь, у гэтай найбольш цікавыя і выгодныя для нас прапановы. Вывелі ж на нас італьянцаў маскоўскія беларусы.

●

Групу са Швейцарыі, якая ў складзе васьмі чалавек прывезла гуманітарную дапамогу ў Мінск і не знайшла нікога па ўказаным адрасе, Згуртаванне «Бацькаўшчына» ўзяло пад сваю апеку незапраграмавана — проста патэлефанавалі старшыні рады з гатэля «Планета», куды маладыя людзі прыехалі, і папрасілі якой-колечы рады. На першую ноч іх і пасялілі ў «Планеце», а потым (трэба тут сказаць дзякуй сябру рады «Бацькаўшчыны», рэктару Беларускага тэхналагічнага інстытута І. М. Жарскаму) у адным з інтэрнатаў гэтай вучэльні.

У групу ўваходзілі прадстаўнікі розных краін: ЗША, Швецыі, Швейцарыі, Нарвегіі, Паўднёвай Афрыкі, але ўсіх іх яднала жаданне рабіць людзям Дабро, сеяць у зняверaных і спакутаваных душах парасткі Веры і Надзеі. І ўсе яны былі людзьмі адоранымі. Таму іх выступы (пропаведзі, музыка, спевы) карысталіся нязменным поспехам. Пабылі яны ў Цэнтры рэабілітацыі дзяцей у Аксакаўшчыне, у мінскай турме, у шпіталях, віталі ўдзельнікаў Устаноўчага сойма беларускіх скаўтаў.

# Нашчадкі Шавэна

(Пачатак на стар. 2—3).

выхопліваюцца і абсалютызуюцца *тыя палажэнні і прынцыпы*, якія так ці інакш «працуюць» на дасягненне агульнай мэты — вярнуць Расію «дамоў», да яе чыстых сельскіх вытокаў, да выпрабаваных форм дзяржаўнасці і рэлігіі. Для адных гэта азначае зварот у царскую, дапятроўскую ці дакамуністычную Русь, для другіх — у больш блізкую і *знаёмую дахрушчоўскую альбо* даперабудовачную Краіну Саветаў.

Па сутнасці, нічога благога ў такіх пажаданнях не было б, калі б пад Руссю «патрыёты» разумелі, скажам, тэрыторыю, якая цяпер і носіць адпаведную афіцыйную назву «Расійская Федэрацыя — Расія». Бяда, аднак, у тым, што яны, прама і адкрыта ігнаруючы снежаньскія пагадненні і новую геапалітычную сітуацыю, гавораць аб Вялікай Расіі ад Буга да Курылаў, ад Ямала і да Кушкі. Гэта фактычна азначае новы передзел граніц, прызнаных ад імя сваіх народаў Вярхоўнымі Саветамі ўсіх рэспублік, Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый і практычна ўсёй сусветнай супольнасцю.

«Там, дзе жывуць расіяне,— ёсць расійская зямля» — такі прынцып абароны тэрытарыяльнага адзінства Расіі прапанаваў рускі эмігрант з Парыжа Э. Лімонаў, які сам сябе не без гонару называе расійскім нацыяналістам. А для паскарэння працэсу ўзнаўлення былой імперыі ён патрабуе арганізаваць барацьбу за аўтаномію рэгіёнаў, населеных расійскім народам, альбо поўны выхад з-пад юрысдыкцыі «варожых этнасаў». Мабыць, тое ж самае меў на ўвазе і віцэ-прэзідэнт Расійскай Федэрацыі А. Руцкой, які амаль пагенеральску загадаў лідэрам нацыянал-кар'ерызму (гэта значыць, кіраўнікам незалежных дзяржаў. — **С. Д.**) «зарубіць сабе на носе, што Расія не аддасць ні пядзі зямлі», а падчас свайго няпрошанага візіту ў Малдову фактычна прызнаў «*незалежнасць*» абвешчанай прыднястроўскімі сепаратыстамі рэспублікі.

А які вэрхал учыніла так званая агрэсіўна-непаслухмяная большасць удзельнікаў апошняга з'езда народных дэпутатаў Расіі, каб не дапусціць канстытуцыйнага прызнання новых рэалій, захаваць у Асноўным законе адкінутае жыццём *палажэнне аб існаванні* СССР і ўваходжанні ў яго склад Расійскай Федэрацыі! Каб любой цаной адрадзіць былую імперыю і ўсе яе каланізатарскія структуры, неадкладна адабраць ад незалежнай Украіны Крым, «падараваны» ёй былым савецкім кіраўніцтвам у гонар 300-годдзя добраахвотнага ўз'яднання з Расіяй. *Каб не столькі абараніць правы* сваіх грамадзян у Прыднястроўі, колькі аддзяліць яго ад суверэннай Малдовы (зразумела, трымаючы ў моцнай вуздэчцы Чэчню і Татарстан).

Усё гэта вельмі нагадвае «філасофію» таго напалеонаўскага салдата Шавэна, які быў занадта заўзятым прыхільнікам захопніцкай палітыкі свайго *імператара і ад прозвішча* якога паходзіць само паняцце «шавінізм». З той толькі розніцай, што ў аснове вялікарасійскага шавінізму ляжыць «тэорыя» аб дзяржаўнай веліччы і сусветным месіянстве рускага народа, аб яго нейкай асаблівай духоўнай і выключна кансалідуючай ролі. Нават у самім паняцці «рускія», згодна з *гэтай канцэпцыяй*, утрымліваецца ідэя саборнасці, збірання ўсіх нацый і народаў у адно дзяржаўнае адзінства, трываласць якога заўсёды вызначалі аўтарытарная ўлада і праваслаўе як вышэйшая духоўная іпастась у параўнанні з «заземленым каталіцызмам» і рэфарматарскімі «сурагатамі» хрысціянства.

Даць прастор рускай ідэі сёння, на думку аўтараў часопіса *«Наш современник»*, значыць выклікаць цэнтраімклівыя сілы, адрынуць чужую і варожую сістэму заходніх каштоўнасцей, якая падмяняе нацыянальную самабытнасць і асаблівасці розных супольнасцей. Важна пры гэтым, на іх думку, улічваць прагрэсіруючы ўплыў заходняга шавінізму на ўклад рускага жыцця, перака*наўчым доказам якога можа* стаць, на іх думку, наступны ланцужок знамянальных падзей у летапісе Расіі: «ерась жыдоўствуючая — смута — раскол— рэформы Пятра І — царстванне Паўла І — дзекабрысты—рэвалюцыйны тэрарызм— тры рэвалюцыі».

Такая ідэйна-тэарэтычная аснова неверагодна ўзросшай актыўнасці прыхільнікаў саборна-дзяржаўнага патрыятызму і навааўленых месій, якія хочуць «ашчасліваць» людзей сваімі байкамі аб «народнай манархіі» і «народным сацыялізме», а па сутнасці — прадоўжыць і замацаваць сваё неабмежаванае панаванне ў грамадстве, не дапусціць ні малейшых зрухаў у напрамку дэмакратыі, нацыянальнай і эканамічнай свабоды, культурнага прагрэсу. Адсюль і такія метады барацьбы, як запалохванне, ультыматумы, крайні нацыяналізм і антысемітызм, ускосныя і прамыя пагрозы грамадзянскай вайной, што асабліва гучна прагучалі на Усеармейскім афіцэрскім сходзе, Кангрэсе грамадзянскіх і патрыятычных сіл Расіі і падпольным з'ездзе народных дэпутатаў былога СССР у падмаскоўным саўгасе «Воранава».

## Небяспека сучаснага «западно-руссизма»

Атрымаўшы такі магутны «метадалагічны» зарад ад сваіх духоўных настаўнікаў з Масквы, акрыялі і прыкметна ажывіліся нашы дамарослыя змагары за вялікую маці-Расію, за родны і мілы іх сэрцу «Союз нерушимый республик свободных». Яны таксама ўнеслі карэктывы ў сваю стратэгію і тактыку, правялі перагрупоўку сваіх шэрагаў, вывелі, што называецца, з падполля ачуняўшых ад жнівеньскага і снежаньскага шоку фундаменталістаў. І зразумеўшы, што беларускі народ ўжо добраахвотна не адмовіцца ад заваяванай свабоды, узялі на ўзбраенне тыя ж сілавыя прыёмы ўздзеяння, тыя ж дэмагагічныя лозунгі і ўстаноўкі.

Што ж гэта за людзі, так заклапочаныя вялікай геапалітыкай і рашуча не прызнаючыя новы статус сваёй Радзімы як незалежнай дзяржавы? Ці здольныя яны аказаць колькі-небудзь прыкметны ўплыў на натуральнае цячэнне *нашага* жыцця-быцця? Якія клопаты апаноўваюць іх у гэтыя пераломныя для рэспублікі дні?

Каб адказаць на пастаўленыя пытанні, варта прыгадаць хаця б некаторыя ўрокі так званай «западно-русской школы» і яе прадстаўнікоў, што вялі такую жорсткую барацьбу супраць беларускага вызваленчага *руху ў канцы мінулага —* пачатку гэтага стагоддзя. Галоўным у гэтай барацьбе быў аргумент аб вялікай магутнай Расіі, а яе ідэалагічным афармленнем — «западно-руссизм», альбо тая плынь у гісторыі грамадска-палітычнай думкі, якая лічыла, што Беларусь не з'яўляецца краінай з асобнай нацыянальнай культурай і таму *не мае права на самастойнае* культурнае і палітычнае развіццё, і што яна, як «Заходняя Расія», непадзельна звязана з цэлым — «адзінай вялікай Расіяй», а беларусы, як адно са славянскіх плямён, арганічна ўваходзяць у склад «адзінага рускага народа», у гэтым сэнсе «западно-руссизм», як своеасаблівае праяўленне вялікадзяржаўнай формы рускай ідэі, процістаўляў сябе плыні *нацыянальна - беларускай і заўсёды* вызначаўся адпаведнымі русіфікатарскімі тэндэнцыямі ў стасунку да Беларусі. З'яўляючыся свайго роду антытэзай паланізатарскім тэндэнцыям, ён змагаўся супраць іх зноў жа ў інтарэсах не Беларусі, а Вялікай Расіі.

Зыходныя ідэалагічныя ўстаноўкі і мэты вызначалі кан*крэтныя формы і метады ба*рацьбы з беларускім вызваленчым рухам, якая вялася тады па ўсіх кірунках і ва ўсіх момантах жыцця: у прэсе, у грамадскіх арганізацыях, у школе, у сям'і. У сваёй кнізе «Западно-руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадскай думкі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в.» (Мінск, 1929) Аляксандр Цвікевіч *падкрэсліваў, што* «западно-руссизм» карыстаў у гэтай барацьбе ўсе сродкі, якія былі ў яго загадзя: з царкоўнага амбону, з прафесарскай катэдры, праз паліцыю і суд, праз безліч афіцыйных выданняў, праз «брацкія лісткі» і школьныя падручнікі, — усюды ішла прапаганда таго, што беларускі нацыянальны рух — «польская інтрыга», выдумка ворагаў Расіі, што ідэя адраджэння беларускай культуры ёсць плод цёмнага розуму, які хоча загнаць Беларусь у процьму непісьменнасці і адсталасці». У выніку такога жорсткага процістаяння былі раздушаны беларускія палітычныя партыі, культурна-асветніцкія і кааператыўныя арганізацыі, забаронены «Наша Ніва», іншыя выданні.

І нават пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года і той буры, якая пранеслася за ёю ў Расіі і ў рэшце рэшт растрэсла самадзяржаўную імперыю, дала магчымасць і Беларусі нароўні з іншымі народамі самастойна вырашаць асноўныя пытанні свайго існавання, ідэалогія «западно-руссизма» была галоўнай перашкодай у справе нацыянальна - культурнага адраджэння. Сведчаннем гэтага стала нежаданне Часовага расійскага ўрада А. Керанскага пайсці насустрач сціплым патрабаванням беларусаў аб забеспячэнні права на палітычнае самакіраванне, нацыянальную культуру. Далейшыя зносіны з гэтым урадам, а пазней і з бальшавіцкім Саўнаркомам, як зазначыў Цвікевіч у другой сваёй рабоце «Беларусь: Палітычны нарыс» (Берлін, 1919), «канчаткова пераканалі ўсіх, што калі раней беларускаму адраджэнню даводзілася мець справу з расійскім самадзяржаўем, то цяпер даводзіцца мець справу з велікарускім вялікадзяржаўем, якое аказалася значна мацней, чым можна было меркаваць, і якім аказаліся прасякнуты ўсе без выключэння расійскія палітыкі, не выключаючы і самых левых».

Прарочыя, проста скажам, словы наконт прасякнутасці левых палітыкаў ідэяй нацыянальнага шавінізму. Сапраўды, хіба не велікарускім вялікадзяржаўем патыхае ад таго перапалоху, які ахапіў пасля ўтварэння СНД частку траўкінскай Дэмакратычнай партыі, хрысціянскіх дэмакратаў на чале з Аксючыцам? Хіба не аб настальгіі па СССР сведчыць і той факт, што раптам замаўчалі тыя маскоўскія паэты і пісьменнікі, якія ў час хрушчоўскай адлігі так моцна ўзвысілі свой голас супраць таталітарызму і дасюль з'яўляліся для нас узорам барацьбы за нацыянальныя і агульначалавечыя ідэалы?

І хоць цяперашнія «*западноруссы*» яшчэ *не аб'ядналіся*, як раней, у магутную палітычную партыю, а іх парады і рэкамендацыі не прымаюцца да неадкладнага выканання ўрадам, нельга недаацэньваць і маштабы дзейнасці гэтых людзей, і выкарыстоўваемыя імі прыёмы ўздзеяння на грамадскую думку, на пэўную частку нашых суайчыннікаў. Сваю «ідэалагічную падкормку» ў агульную чашу нацыянальнага Адраджэння яны спрабуюць падкінуць і праз вышэйшыя органы ўлады, мясцовыя Саветы і выканкомы, праз шматлілія таварыствы, саюзы і рухі, *праз сродкі масавай інфармацыі*, навучальныя ўстановы, школы і курсы, навуковыя канферэнцыі, сімпозіумы і калёквіумы.

Дастаткова перагартаць старонкі стэнаграм або справаздач аб пасяджэннях Вярхоўнага Савета Беларусі, каб пераканацца: ніякага іншага існавання, іншага быцця, як у ад*ной упражцы з Расіяй і ўсімі* саюзнымі рэспублікамі, народы якіх не менш за нас імкнуліся вырвацца з абдымкаў усесільнага Цэнтра, дэпутаты-саюзнікі і антырыначнікі проста не бачылі. Ды і па сённяшні дзень, аб'яднаўшыся ў новыя парламенцкія фракцыі, яны пад выглядам «абароны» інтарэсаў людзей працы па сутнасці тармозяць *прыняцце законаў і ра*шэнняў, якія стваралі б неабходныя знешнія і ўнутраныя ўмовы для рэалізацыі дэкляраванага суверэнітэту рэспублікі, яе самастойнага існавання як раўнапраўнага члена еўрапейскай і сусветнай супольнасці, дэмакратычнай нацыянальнай дзяржавы.

Нацыянальны нігілізм, прыхільнасць да *вялікадзяржаўнай* ідэі і непрыняцце фактычна ўсіх афіцыйных высілак на шляху нацыянальна - палітычнага і культурнага адраджэння — характэрныя рысы не толькі шмат якіх абывацеляў, што страцілі пачуццё нацыянальнай годнасці ў надзейных ланцугах сталінізму, але і тых, хто прэтэндуе на ролю нейкіх правадыроў і ідэйных пастыраў «пакрыўджанага» народа. Яны працягваюць ганьбіць нават нашы святыя нацыянальныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», пад якімі развіваўся і развіваецца беларускі адраджэнскі рух, патрабуюць рэферэндуму аб мэтазгоднасці іх выкарыстання, стварылі нейкі таямнічы камітэт «Беларусы супраць «Пагоні».

Вялікую трывогу выклікае той факт, што сярод «расійскападданых беларускіх патрыётаў» аказалася нямала прадстаўнікоў інтэлігенцыі. Канечне, дзесяцігоддзі жыцця ў дэнацыяналізаваных умовах не маглі не адбіцца на ўспрыманні ёю асноватворных каштоўнасцей свайго народа. Але, як падкрэсліваў Максім Багдановіч у сваім артыкуле «Беларусы», народная інтэлігенцыя ў свой час з'явілася асновай беларускага руху, замацавала дэмакратычнае аблічча яго ідэалогіі. «Абараняючы інтарэсы свайго народу, — пісаў ён, — і кладучы ў аснову гэтай дзейнасці наяўнасць самастойнай беларускай нацыянальнасці і беларускай культуры, беларуская інтэлігенцыя ніколі не ўпадала ў шавінізм, не імкнулася да прымяншэння правоў суседніх нацыянальнасцей на ўсю паўнату самастойнага развіцця».

У сувязі з гэтым нельга не сказаць некалькі слоў аб тых дыскусіях, якія вядуцца апошнім часам вакол нацыянальных інтарэсаў Беларусі ў сэнсе яе геапалітычнага становішча, тэрытарыяльнага рассялення беларусаў. Зразумела, нам трэба добра ведаць, што было і што адбываецца «па той» і «па гэты» бок «крэсаў», як дзялілі жыццёвую прастору Сталін з Гітлерам і Молатаў з Рыбентропам. Але галоўнае, каб гэта не суправаджалася прыніжэннем годнасці іншых народаў, тым больш іх запалохваннем сербахарвацкім варыянтам у выпадку няўважлівых адносін да нашых суайчыннікаў за мяжой альбо — яшчэ горш — патрабаваннямі неадкладнага звароту тых ці іншых тэрыторый, што вельмі нагадвае той самы шавінізм толькі са сваёй нацыянальнай афарбоўкай.

І тут дарэчы было б параіць удзельнікам такіх дыскусій прыслухацца да голасу Васіля Быкава: ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій да суседзяў, ніякіх памежных спрэчак, бо ўсё гэта працуе не на нашу галоўную ідэю, а разбурае яе.

Такім чынам, масавае праяўленне шавінізму, канфрантацыйнай псіхалогіі з'яўляецца небяспечным само па сабе, якімі б матывамі — эканамічнымі, *сацыяльнымі, нацыянальнымі*— яно ні абгрунтоўвалася. Але не меншую занепакоенасць выклікае і тое, калі на аб'ектыўных цяжкасцях і незадаволенасці людзей спрабуюць спекуляваць не проста прыхільнікі аднаўлення дзяржаўнасці (хай то ў форме былой федэрацыі саюзных рэспублік ці былой імперыі), а людзі, усур'ёз за*клапочаныя тым, каб паміж* Беларуссю і Расіяй зніклі ўсялякія межы і адрозненні, людзі, якім вельмі да спадобы абвешчаны яшчэ Аляксандрам III прынцып «Расія існуе толькі для рускіх», якія настойліва імкнуцца надаць свайму руху арганізаваны пачатак, стварыць нейкія структуры і ячэйкі, прыцягнуць у свае шэрагі маладых, *не прайшоўшых выпрабавання* жыццём людзей.

## Месіянскае прызначэнне славянскай ідэі

Відавочна, што і ў гэтай справе беларускія прыхільнікі рускай ідэі не вылучаюцца якойсьці арыгінальнасцю ці *творчымі пошукамі. Тут такса*ма назіраецца прамая пераемнасць са сваімі гістарычнымі папярэднікамі, выкарыстанне вопыту сучасных расійскіх манархістаў, славянафілаў і антысемітаў.

Як вядома, тэарэтычным падмуркам таго ж «западноруссизма» была тэорыя аб асаблівай «абранасці» Расіі, як *носьбіта ўсёратуючай ідэі сла*вянства. Альбо, кажучы інакш, перанесеная на расійскі грунт ідэя Гегеля аб «абранасці» нямецкай нацыі. Што прынесла спроба рэалізацыі гэтай ідэі, зведалі на сабе дзесяткі мільёнаў ахвяр фашысцкай агрэсіі, у тым ліку і самі немцы. У дарэвалюцыйнай Расіі тэорыяй «абранасці» кіраваўся ў сваёй *дзейнасці па бязлітасным вы*нішчэнні «крамолы» і арганізацыі яўрэйскіх пагромаў чарнасоценны «Саюз рускага народа», у праграме якога ясна і адназначна запісана, што рускай народнасці, якая стварыла вялікую і магутную дзяржаву, належыць першынствуючае значэнне ў дзяржаўным жыцці і ў дзяржаўным будаўніцтве, што Саюз не робіць розніцы паміж велікаросамі, беларусамі і маларосамі. Ну, а ад бальшавіцкага разумення «абранасці» дагэтуль крываточаць раны на целе і рускага, і ўсіх іншых народаў былога СССР і былога сацыялістычнага лагера.

Прымаючы па сутнасці ўсе тэарэтычныя пастулаты славянафільства, сучасныя прыхільнікі гэтай ідэі «дапоўнілі» іх некаторымі сацыялістычнымі дамінантамі дзяржаўнасці (напрыклад, грамадская ўласнасць на сродкі вытворчасці), а галоўнае — паставілі ў цэнтр увагі барацьбу з пагрозай «мондиализма» — нейкай сусветнай глабальнай ідэалогіі, на аснове якой, маўляў, ажыццяўляецца «сусветная змова» з мэтай стварэння сусветнага ўрада і ў рэчышча якой цудоўна ўкладваецца развал СССР. Праз «Политический собеседник» яны на поўным сур'ёзе папярэджваюць людзей, што «мондиализм» уяўляе рэальную пагрозу не толькі нацыянальнай самабытнасці Беларусі, але і нашаму выжыванню як народа. На такім фоне ні аб якой сапраўднай незалежнасці рэспублікі, на іх думку, не можа быць і гаворкі, гэта ўсяго толькі капітуляцыя на амерыканскіх умовах, таму асабліва недарэчнымі і смешнымі выглядаюць «нашы дзіцячыя гульні ў суверэнітэт».

Такі падыход знайшоў наглядное ўвасабленне, скажам, у апублікаванай газетай «Политика. Позиция. Прогноз» «Дэкларацыі аб стварэнні Усебеларускага Славянскага Сабору». Тут катэгарычна сцвярджаецца,

# СВЯТА БОЖАГА ЦЕЛА

## Аднаўленне сакраментальнай традыцыі

Сёлета, на 18 чэрвеня, на дзевяты тыдзень пасля Вялікадня прыпадае вялікае свята вербнікаў-хрысціян каталіцкай канфесіі — Свята Божага Цела, устаноўленага ў гонар і хвалу Збавіцеля. Падзея гэта на Беларусі здаўна выглівалася ў вялікае яднанне людзей усіх узростаў і маёмасных груп і нават канфесій ва ўрачыстых багаслужбах і працэсіях, што ў цёплыя летнія дні доўжыліся з раніцы да вечара. Беларускі паэт Уладзіслаў Сыракомля, апісваючы гэтае ўрачыстае свята, распавёў да драбніц яго хараство, калі, напрыклад, дзяўчынкі ў белых сукенках цудоўна выконваюць на радасць бацькам ролю анёлкаў, а шляхта, сяляне, што з'язджаюцца з вёсак і маёнткаў у горад, разам з прыбранымі гараджанамі расквечваюць шэсце сваімі старасвецкімі і старажытнымі народнымі строямі.

Гэтыя традыцыі былі гвалтоўна перапынены пасля рэвалюцыі. Але на ўсё ёсць сведкі і памятлівыя людзі! Прыгадаць, уявіць, як выглядала гэтае свята ў апошні раз перад самым пачаткам першай сусветнай вайны ў Менску, нам дапамог адзін са старэйшых жыхароў горада Станіслаў Антонавіч Шунейка. Ён прымаў удзел у памятнай яму ўрачыстасці, калі быў вучнем пачатковых класаў адной з менскіх школак.

«Перадусім трэба сказаць, — пачаў сваю гутарку Станіслаў Антонавіч, —што наш колішні Менск быў вельмі дагледжаны, надзвычай утульны і зялёны горад. Нават у самым цэнтры ля камянічак былі вялікія сады і агароды. Тое, што тады было цэнтрам, адносіцца да левабярэжжа Свіслачы. Гэта быў Верхні горад, злучаны магістраллю Губернатарскай вуліцы з перпендыкулярнай ёй вуліцай Захар'еўскай (зараз праспект Ф. Скарыны), якая вяла да чыгуначнага вакзала. Я вучыўся ў школе дабрачыннасці, што знаходзілася на Феліцыянаўскай вуліцы (зараз Камсамольская). Разам са мной тут займаліся дзеці простых менчукоў: кухарак, дворнікаў, пакаёвак і іншага працоўнага люду, якія імкнуліся даць дзеткам адукацыю, а сродкаў на больш прэстыжныя навучальныя ўстановы не хапала. Разам з намі вучыліся і сіроты, для якіх меўся пры школе інтэрнат. Адсюль і назва школкі, якую фундавалі багатыя і міласэрныя гараджане, культавыя арганізацыі. Кожнай раніцай, ідучы на заняткі, я не мог не здзіўляцца выглядам менскіх вуліц. Зараз часам трапіць у рукі альбом з выявамі дагледжаных нямецкіх гарадоў — скрозь кветкі, чысціня, утульнасць. Такім менавіта быў і наш Менск. Зірнеш на яснае ранішняе неба — дажджу, падобна, не было, а ўсе шыбы ў вокнах, вулічны брук, ходнікі, муры блішчаць, вымытыя чыстай вадою. Не ленаваліся завіхацца менчукі, каб навесці вакол сябе чысціню і лад. Тады і працаваць і чуцца непараўнальна лягчэй і культурней.

Наша школка, дзе пераважна вучыліся дзеці з каталіцкіх сем'яў, брала самы чынны ўдзел у свяце, якое пачыналася а 9 гадзіне раніцы ў Катэдральным касцёле. Сюды сыходзіліся вернікі з усіх іншых менскіх парафій: Залатагорскай, Новага касцёла Сымона і Алены. Пачыналася ўрачыстае спяванне Евангелля Мацвея. Потым на пляцы перад касцёлам фарміравалася працэсія, якая пад бесперапынныя бомы званоў усіх касцёлаў, пад пералівы званочкаў у руках удзельнікаў, пад спевы гімна «Твой гонар і слава» ішла вуліцамі. Парадак быў надзвычайны. Сам губернатар без галаўнога ўбору выходзіў на балкон свайго дома, што знаходзіўся побач з Катэдрай (зараз там Музычная школа), і маўкліва ўшаноўваў грамаду вернікаў і святароў. Уся менская паліцыя па яго загадзе сачыла за арганізацыяй свята. Ходнікі вуліц перад праходжэннем працэсіі былі пустыя. Не дазвалялася выходзіць на вуліцу ў гэты момант дыяшчэ ў брылі, картузе ці капелюшы. Паабапал праезджай часткі стаялі праз пэўную дыстанцыю паліцэйскія ў чорных мундзірах, белых капелюшах з залачонымі пагонамі і шнурамі, у белых пальчатках. Перакрыжаванні вуліц вартавалі конныя казакі з пікамі і шаблямі ў ножнах. Гэта каб ніхто не мог праскочыць з якой тарантайкай ці возам, пакуль не пройдуць людзі з рэлігійнай атрыбутыкай і спевамі. Арганізаванасць і зладжанасць толькі спрыялі атмасферы агульнай урачыстасці, да якой былі ўсе кожны па-свайму падключаны. Асабліва шчасціла жыхарам вуліц, па якіх праходзіла працэсія. На балконы дамоў па народнай традыцыі вывешваліся тканыя дываны і посцілкі, выстаўляліся вазоны з кветкамі. А галоўнае, з вокнаў, балконаў, адусюль пазіралі шчырыя святочныя твары, дзе-нідзе і прачулая сляза блісне, падхопіцца гімн...

Працэсія ўжо рушыла па Губернатарскай, каб потым звярнуць па Захар'еўскай да Новага касцёла, дзе будзе спявацца Евангелле ад Маркі. Наперадзе нясуць вялікі крыж і дзве харугвы са святымі выявамі. За імі пачынаецца і доўжыцца метраў трыста так званая «Белая працэсія». Назва яе такая прасветленая таму, што яе ствараюць дзяўчынкі ва ўсім белым — у спаднічках, панчошках, хустачках, пальчатках, абутку. Яны нясуць харугвы, на насілачках — пераносныя алтарыкі, харугваў — вельмі шмат, самых розных цэхаў, арганізацый. Нават кожны клас у школе меў сваю харугву для гэтага свята. Яны былі вельмі лёгкія, дзяўчынка-школьніца без напружання трымала яе за дрэўка. Хлопчыкі ў «Белай працэсіі» неслі вялікія кашы, напоўненыя палявымі кветкамі. Дзяўчынкі з маленькімі кошычкамі падыходзілі, бралі з іх кветкі і кідалі пад ногі святароў з сімвалам Божага Цела. Зараз нават і ўявіць цяжка, каб зусім маленькія дзеткі так арганізавана і зладжана ўдзельнічалі разам з дарослымі ў хрысціянскім рытуале.

Роля хлапчукоў была крыху іншая. Яны былі апранутыя ў чорныя гарнітуры і цёмныя кашулькі з павязкай на руцэ. Ішлі адзін за адным абапал дзяўчынак, трымаючы ў руках запаленыя свечкі. Настаўніцы сачылі, каб своечасова замяніць згаслую, сплаўленую свечку на новую, бо гэтая хлапчуковая свяшчэнная варта доўжылася гадзінамі.

За белай працэсіяй ішлі святары. Пад балдахінам ішлі ксяндзы, яны пад рукі падтрымлівалі самага старэйшага, які нёс галоўны атрыбут свята — Дараносіцу — залачонае ўкрыжаванне з адыходзячымі праменнямі, у цэнтры якога знаходзіўся эўхарыстычны хлеб — Цела Езуса. У тое памятнае для мяне свята Дараносіцу нёс ксёндз-пралат Вітаўт Чачот. Я чуў, што ён асвяціў у 1910 годзе і Новы касцёл. Вельмі паважаны і адданы сваёй высакароднай справе святар. Побач з ім крочылі ксяндзы Міхалькевіч, Шчэрба, Усас і іншыя ў вялікай грамадзе, але не памятаю ні твараў іх, ні прозвішчаў. Святары былі мясцовыя, беларусы, блізкія да людзей у сваіх чулых адносінах, нястомныя працаўнікі, пастары душ хрысціянскіх.

Услед за святарамі, узяўшыся за рукі і пеючы малітвы, ішла суполка Жывога ружанца. Гэтыя трыццаць мужчын стрымлівалі ўсю астатнюю грамаду, што крочыла, далучалася да шэсця, каб не збіцца з патрэбнага рытму, каб заднія не націскалі на пярэдніх. Як магніт, прыцягвала гэтая спеўная працэсія менчукоў. Моладзь, старэйшыя, не толькі гараджане, але і вяскоўцы з наваколля, католікі і хрысціяне іншых канфесій любілі згуртавацца разам і прайсціся да розных святых мясцін па вуліцах Менска. Усе чуліся па-асабліваму шчаслівыя, духоўна ачышчаныя. Хіба ж такое забудзецца з часам?

Пасля Чырвонага касцёла, як яго зараз называюць, у тым жа парадку крочылі назад па Захар'еўскай да Свіслачы, пераходзілі шырокі драўляны мост. На другім беразе быў пагорак, на якім стаяў высокі (недзе метраў 7—8) крыж. Тут адбывалася трэцяя дзея свята ў гонар Евангелля Лукі. Сталі лаўкі для старэйшых, каб стомленыя маглі адпачыць. Пераносны алтар ля Крыжа быў аздоблены кветкамі. Як бы ажываў і квітнеў святочна ўсімі колерамі зямнога хараства гэты велічны знак пакуты і перамогі Езуса. Ля ракі, у жывапісным месцы, імша набывала нейкія новыя фарбы радасці і прачуласці. З новым уздымам вернікі рухаліся далей, на Залатую горку, дзе адбываліся чацвёртыя спевы — Евангелля Іаана. Побач з касцёлам Святой Тройцы тады быў вялікі каталіцкі цвінтар, і пасля імшы тут рабілі перапынак. Хто ішоў дагледзець магілкі, хто — падсілкавацца. Сяляне прывозілі сюды салодкія пачастункі. Можна было выпіць квасу, розных напояў. Ніхто ў гэты дзень нават і не думаў пра гарэлку. Зрэшты, паліцыя сачыла, каб ніхто з карчмароў не ўсчаў тут патаемна свой алкагольны гандаль. Штрафы былі такія, што мала з'яўлялася рызыкантаў. І хто тады мог уявіць, што наш горад можа чакаць усеагульнае савецкае п'янства падчас свят! Дзякаваць Богу, што мінаюць страшэнныя ліхалецці, і можна спадзявацца на пэўнае аднаўленне колішняга хараства.

А ўрачыстасць працягваецца. Ізноў выстрайваецца працэсія і вяртаецца тым самым маршрутам да Катэдры. Там правіцца Сума — завяршальная імша. Адбывалася яна ў 16 гадзін, а потым вернікі, кожны са сваёй грамадой, збіраліся ў парафіяльныя працэсіі і разыходзіліся па сваіх касцёлах, каб там у малітве і прычашчэнні завяршыць свята.

І калі аднаўляць гэтае свята, нельга забываць усяго таго добрага, карыснага, што яно мела, трэба памятаць той вялікі шматгадовы вопыт, без якога ці ж магчыма жыць па-людску?..»

Дзякуючы актыўным пошукам сяброў Беларускай Каталіцкай грамады, удалося знайсці ў двухмільённым Менску сведку былога з добрай памяццю і запісаць яго ўспаміны. Сёлета Свята Божага Цела адбудзецца 21 чэрвеня, бо яно заўсёды пераносілася з будзённага дня на нядзелю, каб у ім мелі магчымасць прыняць удзел як мага больш людзей. Пачатак а 9 гадзіне ля Кальварыйскага касцёла. Потым працэсія рушыць па вул. Апанскага, праспекце Машэрава, Варвашэні да Касцёла Троіцкага. Пасля спявання Евангелля — шэсце па праспекце Ф. Скарыны да Кафедральнага касцёла. Шэсце і спевы па-беларуску забяспечваюць на гэтым маршруце беларускамоўныя католікі. Пасля Кафедральнага песні на беларускай і польскай мове. Апошняя імша— на плошчы Незалежнасці таксама на дзвюх мовах. Будзе правіць к. Свёнтак.

Хай у святочнай грамадзе сыдуцца ўсе, хто імкнецца да адраджэння духоўнасці, хто шануе традыцыі нашага народа. Хрысціянскае свята, чыстае і натхнёнае, можа аб'яднаць і кансалідаваць усіх, хто прагне дабра, шчасця і спакою на нашай зямлі.

**Са слоў С. ШУНЕЙКІ**
**запісаў Францішак НЁМАНЕЦ.**

**Марцін КОЎЗКІ**

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**Размова з эканамістам. «Былая наша сістэма гаспадарання эфектыўная толькі ў рэжыме аварый». — «Дык, можа, узяцца за іх ліквідацыю?» — «І стварыць у рэспубліцы катастрафічную сітуацыю? Бо без аўралаў і штурмаўшчыны не цягне наша савецкая машына».**

●

**— Сацыялістычны рэалізм — метад плённы. У мяне кожны раз герой падобны да сябе больш за арыгінал, — сказаў мастак, закончыўшы соты партрэт У. І. Леніна.**

●

**У Мінску праспект Дзяржынскага нечакана робіць пятлю. Аб'язджаем, тлумачыць вадзіцель, «малую зямлю». Тут выперся папярок нейкі армейскі складок, армейцы не адступаюцца, і праспект пацёк убок. Ды гэта што, ва Уруччы цэлы жылы раён на палігон насунуўся, і нічога — грыміць палігон. У Бабруйску «малая зямля» горад гняце спакваля, залежыць вялікі горад ад ваеннага гарадка. Як паралелі і мерыдыяны, аперазалі Беларусь парканы, і трывога сціскае грудзі, ці гаспадары мы, людзі, на гэтай сваёй зямлі?**

●

**— Я не асуджаю ўсіх, што ўкарацілі міні-спадніцы, — казала бабка Аўдоцця, — адно толькі тых, што зрабілі гэта без падстаў.**

●

**Усё яшчэ лічыцца подзвігам жыццё подбегам. Можа, праўда ёсць нейкі шанс атрымаць у вечнасці аванс, не аспрэчваю. Але бегаюць у маладыя гады, а доўжаць старэчыя — не вельмі цікавы баланс. Даў бы мне лішніх дзён пан Бог, каб яшчэ я пачыркаць мог, я б тады ў яго пабегаў, пад сабой не пачуўшы ног.**

●

**На думку эсперантыстаў, усе родныя мовы — чужыя, акрамя інтэрнацыянальнай.**

●

**Мінск застаўся без плошчы парадаў. Быццам нехта ўкраў эстраду, дзе ў фэсты пад шолах сцяжкоў мы віталі кіраўнікоў. Ды ці ўсё? Бо на пляцы парадаў вырастае палац парадаў з лобным месцам на бруку апаленым, дзе стаяў манумент Сталіна. Тая плошча ілжэгістарычная да гэтай пары «Кастрычніцкая», тленны дух бальшавіцкай ментальнасці ў пампезнай яе манументальнасці.**

●

**Казка пра перамену месц. Памяняліся месцамі абкам і выканкам, хоць кадры былі аднолькавыя, што тут, што там. Толькі раней абкам даваў дазвол выканкаму, а цяпер выканкам мусіць дазволіць абкам. Дык гэта ж казка!**

●

**— Якія цудоўныя неба, зямля, машкара ў блакітнай прасторы!..**
**— А хто цябе выцягнуў з гразі.—Я! — каўтануў жабу жораў.**

●

**Паводле Ленгрэна: прычоску мела — залатое руно, сабаліныя бровы, лебядзіную шыю, грудзі ў яе былі, як два галубкі, ногі — як у газелі. А кашэчая грацыя, а змяіная талія!.. Развіталіся з паўгода назад — нашто мне дома заасад?**

●

**Чалавек здольны на ўсё. Але не кожны можа.**


ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Нумар падпісаны ў друк 18.06.92 у 18.10.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЕДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 18068 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12